НАША СВАБОДА
№4 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

7 САКАВІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



стар.3

## Батурын у Польшчы

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

Як стала вядома рэдакцыі НАШАЙ СВАБОДЫ, Алег Батурын зараз знаходзіцца ў Польшчы. 15 сакавіка, падчас правядзення ў Мінску Маршу Свабоды, Батурын будзе распавядаць у эфіры польскага тэлебачання пра сітуацыю ў Беларусі. Сваё стаўленне да палітыкі Лукашэнкі ён ужо выказаў некаторым інфармацыйным агенцтвам Польшчы.

А ў выданні «Газэта Выборча» ад 3 сакавіка было надрукавана яго інтэрв'ю пад назвай «У Мінску небяспечна». У ім Батурын адзначае, што вельмі хвалюецца за сваіх сваякоў, якія засталіся на Беларусі, «бо ў Беларусі, ізноў, як пры Сталіне, бацька адказвае за сына і наадварот».

Батурын яшчэ не ведае, колькі прабудзе ў Польшчы. Але ёсць інфармацыя, што ў далейшыя планы старшага лейтэнанта беларускай міліцыі ўваходзіць просьба аб палітычным прытулку ў ЗША.

## Пашкоджаны магілы польскіх жаўнераў

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

У Ваўкавыску на могілках невядомымі пашкоджаны дваццаць надмагілляў. Злодзеі выбіралі спецыяльна магілы толькі польскіх вайскоўцаў, якія загінулі ў савецкапольскую вайну 1920 года. Ёсць і пазнейшыя пахаванні. Але ўсе яны належаць польскім вайскоўцам. ■

**КАНФЛІКТ**

## Збожжа з Чэхіі заражанае «энтааб'ектамі»?

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ, Брэст**

Сенсацыйнымі сталі прызнанні лабарантаў беларускіх хлебапрадпрыемстваў аб якасці імпартаванай з Чэхіі пшаніцы харчовых гатункаў. Яшчэ пры перагрузцы першых вагонаў на ўчастку брэсцкага аддзялення Беларускай чыгункі было відаць, што зляжалае зерне дробнае і патачанае грызунамі. Нам спіхвалі тое, што не магло быць запатрабаваным на еўрапейскім рынку з-за даўнасці захоўвання.

У лютым Чэскі экспартны банк аформіў дадатковы кантракт на пастаўку 150 тысяч тон харчовай пшаніцы ў лік таварнага крэдыту, то першымі ўсхваляваліся супрацоўнікі брэсцкай каранцінай станцыі пагранкантролю. У размовах з карэспандэнтам яны не ўтойвалі магчымасці вяртання назад грузу з Чэхіі, паколькі зараз ужо не зіма з марозамі і назіраецца інтэнсіўнае абуджэнне «энтааб'ектаў»(розных мушак ды казюрак), якія могуць быць заразнымі. Іншая справа ці хопіць прафесіяналам рашучасці выканаць свой абавязак. Як вядома, надаўна па званку з Мінска была адменена прымусовая «дэпартацыя» кінутых адным з замежных перавозчыкаў двугорбых казахскіх вярблюдаў, якія ўжо відавочна захварэлі. ■

# Міліцэйскае свята скончылася трагедыяй



Фота Уладзь ШЛАПАКА

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Адзін амапавец быў забіты і тры параненыя – такі сумны вынік дня беларускай міліцыі, святкаванне якога зацягнулася на тры дні, з 3 па 5 сакавіка.**

Як нам стала вядома, усё адбылося а палове другой ночы 4 сакавіка (ноч з пятніцы на суботу) на начной маладзёжнай дыскатэцы «Поющие фонтаны». Гэтая дыскатэка праходзіць у фае канцэртнай залы «Мінск». Супрацоўнік спецыяльнага падраздзялення МУС «Алмаз» старшы лейтэнант міліцыі Ф.Ліфанаў, на добрым падпітку, распачаў бойку з нейкім хлопцам. Некалькі амапаўцаў, якія таксама адпачывалі на дыскатэцы, паспрабавалі спыніць бойку, але здарылася нечаканае: Ф.Ліфанаў выцягнуў службовую зброю – пісталет Макарава – і стаў расстрэльваць міліцыянтаў. Сяржант АМАП М.Гляд быў забіты на месцы, прапаршчык Ф.Суханькоў, старшына В.Чухліб і сяржант В.Мацюнас былі параненыя. Міліцыя здолела затрымаць п'янага злачынца. Дарэчы, МУС цяпер асабліва падкрэслівае, што ў той вечар «алмазавец» адпачываў, а не быў «пры выкананні».

Нам удалося сустрэцца з ахоўнікам «Поющих фонтанов» Аляксандрам Сяргеевічам (свайго прозвішча ён не сказаў), які ў тую самую ноч знаходзіўся на месцы здарэння. Па ягоных словах, музыка гучала вельмі моцна, і стралу было амаль не чуваць. Пакуль ішла дыскатэка, ахоўнік знаходзіўся на іншым паверсе – у яго абавязкі ўваходзіць толькі ахова маёмасці, каб ніхто нічога не папсаваў і не скраў. Калі пачаліся мітусня і пальба, Аляксандр Сяргеевіч спусціўся ў залу, каб паглядзець, што там адбываецца.

Ён распавёў, што бачыў двух ці трох чалавек, якія ляжалі на падлозе. Па словах ахоўніка, адна жанчына таксама была паранена – у яе цякла кроў з нагі. Цікава, дарэчы, што ні ў якіх афіцыйных паведамленнях аб колькасці параненых гэтая жанчына не фігуруе.

Аляксандр Сяргеевіч паказаў нам сляды ад куляў, якія засталіся на дзвярах і на сценах КЗ «Мінск», аднак катэгарычна забараніў фатаграфаваць іх – маўляў, на гэта няма дазволу начальства. Дырэктар «Мінска» Аляксандр Гундар нават і размаўляць з намі не стаў пра начное надзвычайнае здарэнне. Трэба разумець, таксама адчувае за сабой віну: за тое, што на дыскатэку змог прайсці чалавек са зброяй, у першую чаргу адказвае ён. У панядзелак з'явіліся чуткі, што ад раненняў у шпіталі МУС памёр яшчэ адзін амапавец. Аднак у шпіталі нам адказалі, што «ніхто тут не паміраў, усе тры знаходзяцца ў нас».

Прэс-сакратар міністра ўнутраных справаў Д.Партон паведаміў, што ягоны шэф, Юрый Сівакоў, ужо па-свойму прарэагаваў на начное здарэнне: «кіраўнікі, якія непасрэдна адказваюць за арганізацыю працы спецыяльных падраздзяленняў і належнае маральна-псіхалагічнае забеспячэнне іх дзейнасці, вызваленыя ад займаемых пасадаў». Прасцей кажучы, паляцелі галовы кіраўнікоў «Алмаза» – і не толькі.

Міністру Ю.Сівакову ўвогуле не шанцуе з службай: менавіта падчас ягонага кіраўніцтва адбылася трагедыя на Нямізе, пачаўся скандал з Алегам Батурыным, пару тыдняў таму міліцыя затрымала рэкеціраў-слухачоў факультэта ўнутраных войскаў Акадэміі МУС. Цяпер вось – яшчэ адзін скандал у ягоным ведамстве. ■

## Паважаныя чытачы!

### Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА абвяшчае падпіску на II квартал 2000 г.

Вы зможаце атрымоўваць нашу газету з красавіка 2000 г., калі пералічыце паштовым пераводам падпісную суму на адзін (675 руб.), два (1350 руб.) або тры (2025 руб.) месяцы на разліковы рахунак рэдакцыі: **3012205160015 у аддзяленні «Цэнтральнае» ААТ «Белбізнесбанк» г.Мінска, код 493. Адрас: 2200123, г.Мінск, п/с 103. Атрымальнік плацяжу: Рэдакцыя газеты «Наша Свабода».**

**У графе «для пісьмовага паведамлення» адзначце свой паштовы адрас, укажыце, з якога месяца і на які тэрмін Вы афармляеце падпіску.**

Паштовы перавод, які можна зрабіць у любым аддзяленні сувязі краіны ў любы час, забяспечыць вам дастаўку газеты з пачатку наступнага каляндарнага месяца.

Падпісчыкам газеты «НАВІНЫ», што прыслалі ў рэдакцыю копіі сваіх падпісных купонаў, якія аформілі падпіску на 2-ое паўгоддзе 1999 г. з ліпеня, жніўня або верасня 1999 г., газета НАША СВАБОДА будзе дастаўляцца бясплатна. Рэдакцыя дзякуе ўсім, хто быў з намі гэтыя месяцы, за падтрымку і давер, заявае, што мы зробім усё, што ад нас залежыць, каб НАША СВАБОДА бесперабойна і своечасова дастаўлялася як новым, так і сталым нашым падпісчыкам.

**ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ**

■ **2,5 тысяч механізатараў не хапае на Брэстчыне.** Дэфіцыт фінансаў у памеры 7 мільярдаў рублёў новымі ставіць пад пагрозу веснавыя работы, якія тут пачынаюць першымі ў краіне.

■ **Грамадзянскі кодэкс, прыняты палатай прадстаўнікоў у 1998 годзе, абавязвае да 1 ліпеня 2000 г. змяніць юрыдычны статус усіх калгасаў.** Пакуль гэта зрабілі калектывы 161 гаспадаркі. 12 калгасаў мусяць прадаць з «малатка», бо яны – поўныя банкруты. Нагадаем, што ўсяго ў краіне каля 2.000 калгасаў.

■ **Агульныя страты жывёлы ў Прыдзвінні ад зімовай бяскорміцы прагназуюцца ў 65 тысяч галоў маладняку і 8 тысяч дойных кароў.** Бешанковіцкі калгас з сімвалічнаю назваю «Савецкая Беларусь» першым у рэгіёне апустошыў фермы, раздаўшы ў іншыя месцы 168 кароў і 248 цялушак. Яшчэ ў 26 гаспадарках вобласці скончыліся кармы.

■ **Цэны на хлебабулачныя вырабы ў Прыдзвінні падвышаныя ў сакавіку ад 18 да 30 %.** Намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Мікалай Федарчук тлумачыць гэта не толькі дэфіцытам сродкаў для закупкі збожжа, але і масавым вывазам прадукту на ўтрая даражэйшыя рынкі Смаленшчыны.

■ **Зноў на Магілёўшчыне пагражаюць дзяржкантролю. Гэтую версію адпрацоўвае міліцэйскае следства пасля вячэрняга стрэлу па акну дома № 16, які размешчаны на праспекце «Камсамольскім».** Невядомы злаўмыснік прыцэльна прабіў дзірку ў акне пад'езда, дзе жыве старшыня Крычаўскага міжраённага камітэта дзяржкантролю сп.Кротаў і ягоны сын – следчы пракуратуры. Ніхто не пацярпеў. Раму з прастрэленай шыбай забралі мясцовыя пінкертоны, якія пакуль адмаўляюцца падзяліцца аператыўнымі звесткамі.

■ **Уключыць усе наяўныя ў рэгіёнах лесапілкі абавязвае рашэнне савета міністраў «аб выкарыстанні драўніны і яе выкарыстанні».** 550.000 кубаметраў драўніны будуць нарыхтаваныя і вывезеныя з Беларусі. Калі б гэта была прадукцыя еўрапейскіх стандартаў, то, магчыма, удалося б часткова вярнуць запазычанасць, напрыклад, Чэхіі па імпарту збожжа. Але новая лесанарыхтоўчая кампанія абяцае больш галаўнога болю, чым прыбытку.

*Працяг тэмы – у сённяшнім нумары*

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**880**

## У аўторак Беларусь развіталася з Міколам Ермаловічам



Увечары 4 сакавіка на пешаходным пераходзе вуліцы Ясеніна Мікалай Ермаловіч, слынны беларускі гісторык, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, стаў ахвярай дарожнай катастрофы.

Было каля 11 гадзінаў вечара. «Хуткая дапамога» забрала Ермаловіча ў 6-ю бальніцу, дзе ён сканаў у 10 гадзінаў раніцы наступнага дня. За ўвесь гэты час ніхто не сабраўся паведаміць сваякам пра здарэнне.

Ні ў прэс-службе ГУУС, ні ў Саюзе пісьменнікаў на сённяшні дзень няма ніякай інфармацыі пра падрабязнасці трагічнага здарэння.

Ермаловіч добравядомы ў свеце як аўтар фундаментальных гістарычных даследаванняў «Па слядах аднаго міфа» і «Старажытная Беларусь». Яго трактоўкі беларускай гістарычнай даўніны, якія супярэчылі афіцыйным установкам, цяпер агульнапрызнаныя. У савецкія часы рукапісы Ермаловіча ляжалі ў сталах выдавецтваў амаль па 20 гадоў і былі сапраўднай падпольнай літаратурай. Працы спадара Міколая Ермаловіча паўплывалі на станаўленне сучаснай гістарычнай навуковай думкі, а яго высокія чалавечыя якасці прывáблівалі да яго мноства людзей.

Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ выказвае свой смутак і глыбока спачувае блізкім і сваякам нябожчыка.

Таварыства беларускай мовы смуткуе з выпадку раптоўнай смерці вядомага дзеяча беларускага Адраджэння, змагара за сапраўдную гісторыю Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь **Міколы Ермаловіча**. Выказвае спачуванне сваякам, сябрам і блізкім нябожчыка.

## Сустрэнемся ў «Дзень Волі»!

*Аляксей СТАЎСКІ*

У панядзелак, шостага сакавіка, прадстаўнікі БНФ «Адраджэньне» падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне ў нядзелю, 25 сакавіка, акцыі «Дзень Волі». У ёй знаходзіцца просьба аб дазволе збору людзей на плошчы Якуба Коласа ў 12.00, а далей плануецца шэсце па праезнай частцы праспекта Францыска Скарыны да сквера імя Янкі Купалы (што насупраць будынка Дзяржцырка). Там мусіць адбыцца кароткі мітынг і вялікі канцэрт з удзелам беларускіх рок-гуртоў. Сярод заяўшчыкаў акцыі значыцца шмат вядомых людзей, у тым ліку і кіраўнікі БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка, Юры Хадыка, Вячаслаў Сіўчык і іншыя.

Гэта старт ужо другой акцыі з «Гарачай Вясны-2000». Першымі заяўку падалі арганізатары «Маршу Свабоды-2». Разгляд яе адбудзецца на гэтым тыдні.

Адзначэнне Дня Волі актыўна будзе падтрымана і ў іншых беларускіх рэгіёнах. Так, ужо пададзеныя і падаюцца заяўкі на правядзенне маніфестацыяў у гарадах Гродна, Слонім, Салігорск, Віцебск, Магілёў. Будуць арганізаваныя пікеты, мастацкія выставы і літаратурныя чытанні.

Арганізатары агульнарэспубліканскай акцыі «Дзень Волі-2000» выказваюць спадзяванні, што гэтая акцыя стане гучнай падзеяй у палітычным жыцці Беларусі. ■




## Кудзінава пасадзілі ў ШЫЗА

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

Дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Уладзімір Кудзінаў, які адбывае зараз шасцігадовы тэрмін у папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму, быў кінуты адміністрацыяй калоніі ў штрафны ізалятар на шэсць сутак.

Прычынай гэтага стала тое, што 1 сакавіка, яшчэ не скончылася *ранішняя* штодзённая зарадка, а зэкі (і з імі Кудзінаў) пацягнуліся ў курылку з цыгарэтамі ў зубах. Гэта звычайная ў тых умовах справа, бо ніхто ніколі не выстойвае зарадку да сканчэння – так прынята ў турме.

Але гэтым разам аператыўнік Карулін, які прысутнічаў на зарадцы, хуценька падскочыў да Кудзінава (пры гэтым мінуючы ўсіх астатніх) і павёў яго на ўнутрызонаўскі адміністратыўны суд, які выпісаў дэпутату сем сутак карцэра.

Карулін у зоне вядомы тым, што раней служыў аператыўнікам у Заслаўлі, адкуль быў звольнены. Кажуць, што за п'янку.

Як распавяла нам жонка Кудзінава, якая атрымала ўсе вышэйзгаданыя звесткі з ананімнага ліста, яна адразу пайшла да начальніка турмы і высветліла, што ўсё гэта – праўда. Больш за тое, гэта аказаліся не ўсе непрыемнасці Кудзінава. Ён напярэдадні быў выключаны з ліку ўдзельнікаў шахматнага ўнутрытурэмнага турніру па невядомай прычыне, але яму аб гэтым не паведамілі. У выніку ён прыйшоў на турнір, які праходзіў у клубе, і тут ж быў «павязаны» міліцыянтамі, бо няўдзельнікі турніру не мелі права доступу і ў клуб. Але ў той раз Кудзінаў здолеў адстаяць свае правы, у адрозненне ад наступнага здарэння, калі атрымаў пакаранне ў шэсць сутак знаходжання ў нечалавечых умовах турэмнага карцэра.

На «свабоду» ён выйдзе восьмага сакавіка. ■

## Затрыманне за налепку

*Алесь ШМЯЛЁЎ*

Журналістка «Беларускай Маладзёжнай» Ірына Слаўнікава, заходзячы зранку ў метро на станцыю «Маскоўская», наклеіла на ўваходныя дзверы вядомую налепку «Game Over», дзе нейкага чалавека, які сядзіць верхам на клюшцы, падфутбольвае нага ў бацінку і бел-чырвона-белых шкарпэтках. Пад нізам даецца надпіс па-беларуску «гульня скончана!».

У момант наклейкі на дзверы вышэйзгаданага твору Ірыну падхапілі моцныя мужчынскія рукі і пацягнулі ў міліцэйскі пакой станцыі. Там журналістку запыталі: «Вы зачем Лукашенко клеите?» На што паследаваў рэзонны адказ: «А дзе вы тут бачыце Лукашэнку?» Такая бязглуздая гутарка працягвалася пару гадзіны, пасля чаго міліцыянты стаміліся даказваць сваё і склалі на Слаўнікаву пратакол аб парушэнні артыкула 143 адміністратыўнага кодэкса «расклейка аб'яваў у забароненых месцах».

Адно цікава, чаму міліцыянты так настойвалі на тым, што на налепцы менавіта Лукашэнка? ■




## Пікетчыкаў вызваляць на свята

*Аляксей ШМЯЛЁЎ*

Трое маладых хлапцоў, якія несанкцыянавана пікетавалі 1 сакавіка рэзідэнцыю Лукашэнкі, былі асуджаныя ў пятніцу судом Ленінскага раёна горада Мінска да 5 сутак адміністратыўнага арышту па артыкуле «дробнае хуліганства». Падчас перавозкі з суда ў спецпрыёмнік-размеркавальнік Цімафей Дранчук атрымаў закрытую чэрапна-мазгавую траўму. 5 сакавіка стан асуджанага рэзка пагоршыўся, яго даставілі ў 3-ю гарадскую клінічную бальніцу, дзе быў пацверджаны дыягназ. 18-гадовы Цімафей датэрмінова адпушчаны на волю. Астатнія пікетчыкі – Леанід Малахаў і Піліп Клікушын – працягваюць адбываць пакаранне і правозяць галадоўку пратэсту. На волю яны выйдуць 8 сакавіка. ■

## Апазіцыя ў Швецыі

*Алесь КАРАЛЁЎ*

Прадстаўнічая дэлегацыя беларускай палітычнай апазіцыі прыбыла ў панядзелак у Стакгольм для сустрэч за ўрадавых колах і грамадскіх арганізацыях. Беларусь прадстаўляюць: міжнародны каардынатар Хартыі'97 Андрэй Саннікаў, старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч, старшыня БНФ Вінцук Вячорка, віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Анатоль Лябедзька, віцэ-прэзідэнт Беларускага кангрэса незалежных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч; старшыню БСДП Мікалая Станкевіча зноў не выпусцілі за мяжу, і за яго паехаў намеснік Аляксей Кароль, старшыня грамадскага аб'яднання «Гродзенская ініцыятыва» Сямён Домаш і прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Жана Літвіна.

Паводле папярэдне ўзгодненай праграмы, рабочыя сустрэчы дэлегацыі адбываліся з міністрам замежных справаў Швецыі Ганнай Ліндт; у парламенце – з яго віцэ-спікерам Андэрсам Б'ёркам. Прымалі гасцей у «Шведскім інстытуце» – арганізацыі, якая ладзіла гэты візіт, а таксама адбыліся гутаркі з прадстаўнікамі пастаяннага парламенцкага камітэта па міжнародных адносінах, Міжнароднага агенцтва развіцця і супрацоўніцтва. Беларуская дэлегацыя ўзяла ўдзел у адкрытым семінары ў Міжнародным цэнтры Улафа Пальмэ. На выніковай прэс-канферэнцыі ў прадстаўнікоў Беларусі была магчымасць распавесці пра сітуацыю з правамі чалавека ў рэспубліцы і аб перспектывах перамоўнага працэсу паміж афіцыйнымі ўладамі і апазіцыяй. ■

## Лябедзьку выдалі пашпарт

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

Відавочна, што візіт парламенцкай «тройкі» напраму́ю паўплываў на лёс «невыязнога» статусу віцэ-спікера Вярхоўнага Савета 13-га склікання Анатоля Лябедзькі – яму выдалі замежны пашпарт і дазволілі выезд у ЗША на разгляд Кангрэсам пытання аб становішчы на Беларусі.

Нагадаем, што Лябедзька быў невыязны за межы Беларусі апошнія тры месяцы, бо АВІР Фрунзенскага раёна Мінска, які ўзяўся за выраб новага замежнага пашпарта дэпутата, упарта адмаўляўся выдаваць яго нібыта з прычыны працы над ім. Па закону ж максімальны тэрмін на выраб пашпарта – адзін месяц.

Але пасля сустрэчы парламенцкай «тройкі» з афіцыйнымі прадстаўнікамі беларускіх уладаў, а таксама з апазіцыйнымі дзеячамі пашпарт Лябедзьку выдалі. Прычым зрабілі гэта ў апошні магчымы тэрмін перад выхаднымі. ■

ТЭНДЭНЦЫЯ

## Загад: «Запусціць лесапілкі!»

*Станіслаў ЛОМ*

**Каштоўныя сыравінныя запасы Беларусі высякаюцца зараз дзеля таго, каб выратаваць ад бяскорміцы галодную жывёлу на калгасных фермах.**

Што значыць нарыхтаваць 550.000 кубаметраў драўніны? Самі абласныя лесагаспадарчыя аб'яднанні такі дадатковы аб'ём не выцягнуць. Лепшае, што ўдавалася зрабіць 88 лясгасам, за якімі 74% земляў усяго лясного фонду, – гэта экспартаваць каля 120 тысяч кубаметраў гатовых піламатэрыялаў. Астатняе – дробнатаварная драўніна 6-13 сантыметраў у дыяметры, як сыравіна для цэлюлозна-папяровай прамысловасці і руднікоўых стоек. Па ацэнках экспертаў міністэрства лясной гаспадаркі, Беларусь не паспявае высякаць спелы лес, што прыводзіць да страты яго якасці, а з ім і кошту. Акрамя таго, зараз на кожныя 100 гектараў лесу прыпадае толькі 200 метраў добрых дарог. А пра тэндэнцыю іх новага будаўніцтва можна меркаваць па параўнальных лічбах двух папярэдніх гадоў: пабудавалі 26 км «гравiек» у 98-м, 13 – у 99-м. З-за нявырашаных транспартных праблемаў у лясгасе Столінскім на Палессі намераны сёлета вязаць плыты для вывазу драўніны з берагоў балотных рэк.

Новыя і старыя піларамы айчыннай і расійскай вытворчасці не здольныя ў сваёй большасці забяспечваць распілоўку бярвенняў на прадукцыю еўрапейскіх стандартаў. А за брак ніхто плаціць валюту не будзе.

Тыя ж, хто аддаў сёння каманду запусціць усе лесапілкі, наўрад ці абцяжарвалі свае галовы думкамі пра заўтрашнія наступствы мала кантралюемага працэсу. Высечаныя штогод 26 тысяч гектараў лесу не ўзнаўляюцца. Ды і якія зараз сэнс лясніцкам сачыць за чысцінёй прыродных насаджэнняў, павялічваць новыя пад іх плошчы і забяспечваць прымальныя экалагічныя ўмовы, калі галоўным паказчыкам іх дзейнасці становіцца колькасць заробленай валюты? Аднак з выручкі ад экспарту ў мінулым годзе забралі 7 мільёнаў долараў на закупку камбікорму і вітамінных дабавак, а сёлета забяруць яшчэ больш. Складваецца ўражанне, што чыноўнікі, напалоханыя паморкам на фермах, знайшлі «сякеру пад лаўкай» і рушылі з ёю здабываць хлеб у лесе. Магчыма, што з гэтага ў іх нешта часова атрымаецца, але Беларусь можа ператварыцца ў пустыню. ■

# Патрэбны зямельны перадзел

## Васіль Старавойтаў прапануе раздаць зямлю сялянам альбо засадзіць лесам. Усё роўна калгасы і саўгасы нас не пракормяць

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Славуты гаспадарнік Васіль Старавойтаў днямі дзяліўся з журналістамі сваімі ўспамінамі пра былое і думкамі наконт рэфармавання сельскай гаспадаркі. Сустрэча адбывалася ў Цэнтры па правах чалавека, якім кіруе вядомая адвакатка Вера Страмкоўская, і таму падчас размовы не магла не закранацца і палітычная тэматыка. Пацвердзілася, што па гэтых праблемах былы вязень падкаваны не горш, чым у справах сельскагаспадарчых. Ён і тут раіць самыя кардынальныя крокі. Але пачынаць рэформы, паводле Старавойтава, трэба перш з вырашэння зямельнага пытання.**



### Парады са старога куфра

Прапануючы як мага хутчэй раздаць сялянам зямлю, Старавойтаў бярэ прыклад з «дзядулі Леніна». Былы старшыня славутага «Рассвета», як і правадыр сусветнага пралетарыяту, калі вярнуўся з эміграцыі, прыйшоў да высновы пра рашучыя дзеянні, інакш усіх чакае развал і галадуха.

Старавойтаў з сумам узгадвае свой «Рассвет» напярэдадні арышту ў лістападзе 1998 года. Праз два месяцы збіраліся даць юрыдычную незалежнасць усім падраздзяленням гаспадаркі (іх было звыш 50, яны ўжо мелі асабістыя рахункі ў рассветаўскім банку), падвысіць заробкі, укласці грошы ў выгадныя бізнес-праекты. «Рассвет» нават у цяжкія лукашэнкаўскія часы нядрэнна развіваўся — за два мінулыя гады зарабілі звыш двух мільёнаў долараў. Гэтыя грошы маглі б прынесці сёння вялікую карысць, бо былі ўкладзены ў патрэбныя рэчы — вялікагрузныя аўтамабілі, сучаснае абсталяванне, якое б неўзабаве перайшло ў валоданне канкрэтных падраздзяленняў. Атрымай яны эканамічную незалежнасць, распарадзіліся б не горш за яго, упэўнены Старавойтаў. Але тут у справы ўмяшаліся міліцыянты ды пракуроры, і рэформе па-рассветаўску прыйшоў канец. Цяпер усё горш, лічыць Старавойтаў. Маёмасць калгасная не дае належнай аддачы, бо працуе не на канкрэтнага гаспадара, а на «кагал» чыноўнікаў. Калі хто і захоча цяпер пайсці шляхам рэфармавання калгаса праз акцыянаванне, ён сутыкнецца з баяззю людзей купляць акцыі гаспадаркі, бо з імі можа атрымацца тое ж самае, што з акцыямі «Рассвета» – стануць пылам. «Ужо паперкамі селяніна да зямлі не прычэпіш, ён гэтаму не паверыць, яму толькі саму зямлю падавай», – упэўнены Старавойтаў. А сумненні наконт таго, што не засталося на вёсцы здольных самастойна працаваць мужыкоў, што спіліся ды сталі злодзеямі, Старавойтаў не падзяляе. Кажа, пра гэта балбочуць тыя, хто сам крадзе і не хоча змены парадкаў.

Дарэчы, цытуючы Леніна, былы вязень аршанскай калоніі ім зусім не захапляецца. Прычым даўно. Піетэт да правадыра пралетарыяту знік пасля таго, як аднойчы, вывучаючы чарговы том ягоных твораў, Старавойтаў патрапіў на дакумент, у якім Ленін загадвае расстраляць мяшэчнікаў-«спекулянтаў», а суддзяў, якія далі ім усяго па два гады, аддаць пад трыбунал (што азначае той жа расстрэл, толькі пазней). Гэткае вурдалакства Старавойтаву, мякка кажучы, не спадабалася. Ён увогуле супраць крыві, гвалту і нават помсты. Пра Лукашэнку кажа, што не трымае на яго злосці, хоць і разумее, што не мог кіраўнік дзяржавы не спрычыніцца да ягонага арышту.

### Ад турмы як ад сумы...

Старавойтаў ахвотна разважае на тэму «Чаму арыштавалі?» Галоўныя прычыны ён бачыць у эканоміцы. Маўляў, «Рассвет» не ўпісваўся ў эканамічную сістэму краіны, у якой спынілася рэфармаванне. Яго абвесцілі бяльмом на воку, пухлінай, ад якой трэба пазбавіцца, каб не захварэць усяму арганізму. І ў гэтым сэнсе Старавойтаў з дыягназам згодны. Калі б «Рассвет» не разагналі, калгасная сістэма можа ўжо б сканала, мяркуе ён і згадвае, што некалькі дзесяткаў гаспадарак гатовыя былі рэфармоўвацца на рассветаўскі лад, да іх абавязкова далучыліся б яшчэ сотні. Але перабудова калгаснай сістэмы не ўваходзіла ў планы новага кіраўніцтва краіны, паколькі выводзіла з-пад падпарадкавання асноўны лукашэнкаўскі электарат – даверлівых сялянаў. Самі яны не ўяўлялі небяспекі, сучасны селянін, як той прыгонны, цалкам залежыць ад старшыні, заўважае Старавойтаў. Але прага старшыняў да вольнага гаспадарання ў 1998 годзе была яшчэ якой вялікай! Зламаць гэты настрой можна было толькі «праз калена» – публічна расправіўшыся з кімсьці з самых аўтарытэтных сялянаў. Кандыдатура Старавойтава аказалася самай удалай. Сам Старавойтаў не выключае, што ягоную кандыдатуру на ролю закладніка прапанаваў не Лукашэнка, а нехта з ягонага атачэння. Нават дагадваецца, хто. А далей усё пайшло па знаёмай схеме: падкладзены кампрамат – цкаванне – арышт – суд – турма.

Чаму Старавойтаў не ўпэўнены, што ягоны арышт ініцыяваў сам Лукашэнка? Ён узгадвае, як быў запрошаны на прыём у гатэль «Юбілейны» ў 1995 годзе, дзе ў прэзідыуме яму далі месца недалёка ад прэзідэнта. Як разам з Юрыем Захаранкам чокнуліся з Лукашэнкам ды пажадалі таму поспехаў у працы. Старавойтаў не заўважыў тады ў вачах Лукашэнкі затоенай варожасці, хоць ведаў, які гэта помслівы чалавек. Не мог жа ён сапраўды забыцца, як год таму, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, Старавойтаў, які падтрымліваў Кебіча, раіў яму, кандыдату Лукашэнку, пачакаць, не лезці ў прэзідэнты, бо ён не мае нават вопыту кіраўніка раённага маштабу. Старавойтаў згадвае такія свае словы з той размовы: «Хай спачатку іншыя прэзідэнты наламаюць дроў, а вы ўжо потым, праз 15 гадоў»... І што? Вось мінуў жа год, і быццам гэтая ягоная шчырасць тады не адгукалася. Чаму ж думаць, што яна адгукнулася яшчэ праз тры гады?

Не мае Старавойтаў пэўнага адказу, але і супакоіцца не можа. Шукае адказ. Без злосці, але цвёрда ў нейчы бок кажа : «Я ім гэтых здзекаў не дарую». І яшчэ запэўнівае, што калі б выпаў шанец усё пачынаць спачатку, рабіў бы тое самае.

### Усіх пускаць, нікога не выпускаць

З дапамогаю гэтага немудрагелістага правіла пасеўшых у засадзе ментоў Старавойтаў апісвае сваё сённяшняе сацыяльнае становішча. Ён мае на ўвазе сітуацыю, у якой апынуўся чалавек, які вярнуўся з турмы дадому і вымушаны сядзець сіднем у гэтым доме, чакаючы добрых гасцей. Кожнаму так рады, што не хочацца і адпускаць. Дзякуй Богу, да яго прыходзяць, вось толькі звесткі прыносяць не самыя радасныя. Жыццё ў Мышкавічах стала зусім іншым. Са станоўчага можна адзначыць заўважны выбух нараджальнасці, які прыйшоўся як раз на першы двухгадовы перыяд працы ў «Рассвеце» зводнай брыгады з міліцыі і пракуратуры. Мясцовы генафонд за кошт прытоку свежай крыві яўна палепшыцца, прадказваюць кіраўскія акушэры. Але больш нічым хваліцца няма. Жыццё рассветаўцаў стала яшчэ горшым. Гэтую выснову Старавойтаў зрабіў не столькі з параўнання паказчыкаў, колькі нават з настрою. Раней ягоныя людзі ганарыліся тым, што працуюць у «Рассвеце», а цяпер саромеюцца і кажуць пра «здраду свайму Старавойтаву». Яшчэ кажуць, што жывуць неяк шэра. Ездзіць куды, бываць дзе далей за райцэнтр не даводзіцца. І грошай бракуе, і часу не стае. Працуюць у вясну ды лета фактычна без выхадных, чаго за Старавойтавым ніколі не было. Многія мужыкі співаюцца, крадуць калгаснае і нават ужо лазяць па чужых склепах – піць жа на нешта трэба. А заробкі скараціліся ледзь не ўтрая, з лічбамі ў руках даводзіць Старавойтаў. Ён пераконвае, што яго забяспечваюць усёй неабходнай інфармацыяй. Вядома ж, не новае кіраўніцтва, а добразычліўцы. Гэта тыя, каго такое жыццё не задавальняе, хто не можа забыць пра згублены рай учарашняга жыцця. Звычайна яны ідуць да Старавойтава ў госці па вечарах – пагутарыць, пачаставаць. Гэта як пачалося з першых дзён пасля вызвалення, калі прынеслі нават кавалак свежанінкі, так і не сканчаецца. Старавойтаў ганарыцца гэтай увагай, бо для яго гэта як вызваленне ад душэўных пакутаў. Ён згодны, што ў пэўным сэнсе яму здрадзілі, але не крыўдуе. Кажа, рассветаўцы таксама нацярпеліся, звыш 30 чалавек былі арыштаваныя, тры сотні прайшлі праз допыты. І ўсё гэта з-за яго. Але рассветаўцы ўжо шкадуюць, кажа былы старшыня. Паводле ягоных словаў, яго нават пыталіся, ці пойдзе зноў у старшыні, калі калгаснікі за яго прагаласуюць. Адказаў – не. Былога не вярнуць, двойчы ў адну ваду не залезці. Ягоная мэта пакуль больш сціплая – дачакацца часу, калі «гэты рэжым сыдзе». Што гэта абавязкова адбудзецца, Старавойтаў не мае сумневу. ■

ІНТЭРВ'Ю

# Валерыя Шчукіна «крыміналкаю» не запужаеш

**Напярэдадні «Маршу Свабоды-2», які пройдзе 15 сакавіка, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання, вядомы праваабаронца і журналіст, а таксама актыўны ўдзельнік «Маршу Свабоды-1» Валеры Шчукін падвергся чарговаму ціску з боку ўладаў. Яму па пошце прыслалі павестку з пракуратуры Мінска, дзе запрасілі прыйсці на допыт да следчага Фешчанкі. Трэба нагадаць, што супраць Шчукіна ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле 186.3 (арганізацыя ці актыўны ўдзел у дзеяннях, груба парушаючых грамадскі парадак), і ён правёў 15 сутак у СІЗА «Валадарка» менавіта за ўдзел у першым «Маршы». І вось, калі справа, здавалася б, заглохла, адбыўся яе нечаканы працяг. З гэтага і пачалася нашая гутарка з Валерыем Шчукіным.**

***— Валеры Аляксеевіч, дык чаго ж вас усё ж выклікалі ў пракуратуру?***

— Мяне выклікаў следчы і паведаміў, што следства па маёй крымінальнай справе завершанае і што справу ён будзе закрываць. Пасля допыту, дарэчы, толькі трэцяга за ўвесь час следства, Фешчанка прапанаваў 7 і 9 сакавіка мне прыйсці з адвакатам і азнаёміцца з матэрыяламі следства, пасля чаго яны будуць перададзеныя ў Мінскі гарадскі суд. А ўжо праз месяц-другі пачнецца сам судовы працэс.

***— А ці не раскрываў следчы вам нейкіх сакрэтаў аб тым, на чым грунтуецца вашае абвінавачванне?***

— Пакуль гэта невядома, ды і я ўвогуле не разумею, на якой падставе мяне ў чымсьці абвінавачваюць! Я выдатна ведаю, што супраць мяне ў іх нічога няма. Мяне зрабілі арганізатарам, бо я, бачыце, падпісаў заяўку. Але ж заяўку, акрамя мяне, падпісалі і яшчэ, здаецца, 20 чалавек. Але ж судзяць чамусьці толькі мяне і Статкевіча. У іх не можа быць ніводнага доказу, што ўдзельнічаў у масавых беспарадках, бо на момант, калі распачалася бойка, мяне там ужо блізка не было! Я думаю, што яны проста хочуць запужаць мяне.

***— Але ж вас так проста не запужаеш. Наколькі я ведаю, вы падпісалі заяўку на правядзенне і «Маршу Свабоды-2»?***

— Так, я падпісаў заяўку, і больш за тое, як і ў мінулы раз, пайду ў першым шэрагу. Так што можа тут справа нават не ў «Маршы Свабоды-2», а ў тым, што я заявіў, што калі апазіцыя будзе ўдзельнічаць у выбарах у палату, то і я прыму ўдзел. Мая акруга – Полацк. Там ужо плануюць узяць удзел чалавек шэсць, у тым ліку мясцовы вертыкальшчык. Зразумела, што, акрамя мяне, ніхто з астатніх кандыдатаў рэальнай пагрозы вертыкальшчыку не складае, а вось я апанент даволі-такі сур'ёзны. Таму сітуацыя ў мяне, як і ў Міхаіла Чыгіра, якога судзяць зараз. Наўрад ці яго пасадзяць, але ўмоўны тэрмін дадуць, канешне, і гэтым самым перакрэсліць магчымасць балатавацца ў дэпутаты даволі працяглы перыяд. Тое ж самае і ў мяне, і гэта вельмі верагодная прычына.

***— А пры якіх умовах вы прымеце ўдзел у парламенцкіх выбарах гэтай восенню?***

— Пры ўмове, калі апазіцыяй будзе прынятае кансалідаванае рашэнне аб удзеле ў выбарах. Зараз яшчэ самі выбары не прызначаны, невядомы некаторыя істотныя нюансы. Пакуль што рана нешта казаць з упэўненасцю.



***— Валеры Аляксеевіч, якія, на ваш погляд, асноўныя задачы і перспектывы ў «Маршу Свабоды-2»?***

— Задачы такія ж, як і ў першага «Маршу» – прымусіць улады прыслухацца да волі народа. Вулічныя акцыі ў цяперашнім становішчы – адзіны сродак барацьбы за свае правы. Наконт перспектываў – пытанне яшчэ тое. Невядома, дазволяць яны «Марш Свабоды» ці не. Вось маладым – тры гады запар забаранялі святкаваць Дзень Святога Валянціна, а яны ўпарта дабіваліся свайго права, права хадзіць па вуліцы. Іх штрафавалі, саджалі, але на чацвёрты год улады здаліся, дазволілі акцыю, і стала зразумела – моладзь свайго дабілася. Я думаю, тое ж будзе і з «Маршам». Няхай гэта будзе не другі і не трэці «Марш Свабоды», але рана ці позна яны вымушаныя будуць пайсці на саступкі.

***— І напрыканцы кароткі прагноз. Ці будуць акцыі «Вясны-2000» масавымі?***

— Я думаю, што справа нават не ў масавасці. На мой погляд, лепш правесці дваццаць акцыяў па адной тысячы чалавек, чым адну з дваццацю тысячамі. Улады трэба ціснуць калі не кожны дзень, то праз дзень. Казаць ім нешта няма сэнсу. Дарэмна пераконваць іх у іх жа неправаце.

Гутарыў Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

# Тройка прыязджала за «дыялогам» – паехала з «асцярожным аптымізмам»

## Лукашэнка, нібыта, прапанаваў дыялог. Еўрапейцы яму, нібыта, паверылі. Апазіцыя засталася пры сваім

**Тры дні – з першага па чацвёртага сакавіка – праходзіў афіцыйны візіт у Мінск «Парламенцкай тройкі» прадстаўнікоў еўрапейскіх заканадаўчых арганізацыяў – Парламенцкая асамблея АБСЕ, Еўрапарламент, Парламенцкая асамблея Рады Еўропы. Адмыслова да прыезду еўрапейскіх дыпламатаў ім, а заадно і беларускаму грамадству было прадстаўлена даволі камічнае відовішча, хутка зляпанае ў адміністрацыі прэзідэнта пад кодавай назвай «дыялог улады з грамадствам». Падчас побыту еўрапейскай «troiki» (менавіта так яна называецца ў англамоўных дакументах) нават адбыліся «паказальныя выступы» 18-ці. Тры каманды (улада, апазіцыя і грамадскія арганізацыі) выконвалі піруэты вакол «круглага стала» пад замоўленую еўрапейцамі «музыку дыялогу».**

Галоўную ідэю, якую імкнуліся данесці еўрапейскія прадстаўнікі да абодвух бакоў беларускага процістаяння, – трэба распачаць перамовы. Невыпадкова ў інтэрв'ю нашаму карэспандэнту кіраўнік групы ў справах Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ Адрыян Северрын падкрэсліў, што апазіцыя «*павінна браць удзел у палітычным дыялогу, любым дыялогу, паколькі дыялог лепей за яго адсутнасць. Іншы шлях – гэта шлях гвалтоўнай канфрантацыі, і гэты шлях не падыходзіць*». Няхай сабе напачатку гэты дыялог не будзе мець рэальнага сэнсу – галоўнае, яго пачаць. А потым ужо ператварыць гэты працэс у сапраўдныя перамовы, на якіх будзе дасягнуты кансенсус наконт выбарчага кодэкса і правядзення вольных і дэмакратычных выбараў, – вось што спрабавалі давесці да беларускіх палітыкаў еўрапейцы.

Для некаторых беларускіх апазіцыянераў падалася нават занадта моцнай тая настойлівасць, з якой еўрапейскія пасрэднікі падштурхоўваюць апазіцыю да дыялогу з уладамі. Як распавёў мне адзін з удзельнікаў сустрэчы Каардынацыйнай Рады з «тройкай», асабліва збянтэжыў беларускіх палітыкаў выступ старшыні Палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы брытанскага лейбарыста Тэры Дэвіса. Дэвіс, як сцвярджаюць удзельнікі размовы, крытыкаваў беларускую апазіцыю за вулічную актыўнасць, якая, на ягоную думку, ні да чаго не прыводзіць. «У апраўданне» брытанцу можна сказаць хіба тое, што Дэвіс першы раз у Беларусі і не зусім знаёмы з мясцовымі палітычнымі акалічнасцямі. Магчыма, ягоная неадэкватнасць стала кідацца ў вочы, бо на выніковай прэс-канферэнцыі ў пятніцу прадстаўніка краіны з левабаковым рухам ужо не было.

На выніковай прэс-канферэнцыі еўрапейцы выказалі «асцярожны аптымізм». Пачуць гэта было нават забаўна, улічваючы, што ўсяго некалькі гадзінаў перад гэтым падчас сустрэчы з «тройкай» Лукашэнка сказаў, што Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ «не нужна здесь», паколькі, маўляў, на Беларусі няма ані войнаў, ані канфліктаў. Адразу пасля заканчэння прэс-канферэнцыі я спытаў дакладчыка ў справах Беларусі Палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы Вольфганга Берэндта, як ён ацэньвае гэтую заяву Лукашэнкі. Берэндт адказаў, што «*мы выказалі моцную нязгоду з гэтым меркаваннем і...далі гэта зразумець падчас нашай дыскусії з прэзідэнтам*». На маё пытанне, як на гэтыя словы адрэагаваў Лукашэнка, нямецкі чыноўнік шчыра патлумачыў – «ніяк». (Варта, дарэчы, патлумачыць, што пагадненне аб заснаванні місіі АБСЕ ў Беларусі было падпісанае двума бакамі, і аднаасобна «прыбраць» офіс АБСЕ афіцыйнаму Мінску не пад сілу – прынамсі, легальнымі дыпламатычнымі сродкамі).

Падчас спаткання Лукашэнка яшчэ раз «абламаў» дыпламатычных еўрапейцаў, заявіўшы літаральна наступнае: «Калі вы не прызнаеце нашай Канстытуцыі, нам з вамі няма пра што гаварыць». Але і тут на прэс-канферэнцыі ў пасланнікаў знайшлося сваё тлумачэнне-апраўданне – як станоўчы знак былі адзначаныя словы Лукашэнкі, што нават змены ў Канстытуцыю могуць стаць прадметам «шырокага дыялогу». Усё гэта падобна на «сапсаваны тэлефон», дзе кожны чуе тое, што жадае пачуць.

Як вядома, падыход апазіцыі тут застаецца нязменным – Канстытуцыя 1994 года.

«*Мы былі расчараваныя прыпыненнем перамоўнага працэсу, пачатага ў мінулым годзе. Тым не менш мы ўхваляем жаданне, выказанае абодвума бакамі знайсці прымальнае рашэнне сур'ёзных палітычных складанасцяў, і гэта дае нам некаторыя падставы дзеля асцярожнага аптымізму адносна далейшага развіцця падзеяў*», – гэткія словы гучаць у афіцыйнай заяве парламенцкай «тройкі».

Прадстаўнікі тройкі адзначылі, што бачаць дыялог як пачатак таго працэсу, які павінен прывесці да пэўнага кансэнсуса наконт выбарчага кодэкса. «*Для нас прыймальнае рашэнне – гэта згода абодвух бакоў наконт кодэкса. Гэта будзе найважнейшай перадумовай для свабодных выбараў*», – адзначыў Вольфганг Берэндт.

У словах еўрапейскіх пасланнікаў прагучала, што круглы стол 18-ці, які быў праведзены ў пятніцу, стаў першым крокам да пошуку кампрамісу. Відавочна, прадстаўнікі «тройкі» імкнуліся знайсці мінімальную магчымасць, каб усадзіць уладу і апазіцыю за стол перамоваў, і таму нават выразна прапагандысцкія крокі яны гатовыя ўспрымаць як жэст добрай волі. Еўрапейскім дыпламатам таксама ж трэба паставіць «птушку» ў графіку «праведзеных мерапрыемстваў». «*Стратэгічная трываласць і тактычная гнуткасць... Нават маленькі прагрэс лепш адсутнасці прагрэсу*» – філасофія, абвешчаная Адрыянам Севярынам.

У той жа час не сакрэт, што ў кулуарах большасць беларускіх апазіцыйных палітыкаў ацэньваюць перспектывы перамоваў даволі песімістычна. Каардынацыйная Рада ўзгадніла сваю пазіцыю наконт перамоўнага працэсу і ў адмысловай заяве падкрэсліла асноўнае – дыялог можа адбывацца, але ён не павінен адмяняць (і падмяняць сабой) перамовы. Відавочна, улада і апазіцыя па-ранейшаму (і справядліва) не давяраюць адно аднаму, спрабуючы проста перайграць суперніка ў вачах еўрапейскіх пасрэднікаў.



Фота IREX/ProMedia

Гульня ідзе даволі нервовая, паколькі стаўкі зусім не віртуальныя. Еўрапейцы выказваюць сваё «расчараванне», але яно не настолькі моцнае, каб пагражаць увядзеннем эканамічных санкцыяў – да чаго непасрэдна ўжо падышлі ЗША. А адна толькі адмена статусу найбольшага спрыяння ў гандлі з ЗША – гэта страта для Беларусі дзесяткаў мільёнаў долараў і адсутнасць заробку для тысяч людзей. Еўропа, здаецца, пакуль не жадае ісці на падобныя крокі, спадзеючыся знайсці такую чароўную формулу, якая раптам усіх прымірыць і задаволіць. ■

ТЭНДЭНЦЫЯ

## На Захад не клічуць і ў Расію спазніўся

**Вячаслаў ЗАЛОЗА**

Без каментарыяў пакінулі дзяржаўныя СМІ Беларусі новыя інтанацыі А.Лукашэнкі на сустрэчы з журналістамі шэрагу выданняў Санкт-Пецярбурга на мінулым тыдні. Між тым як сенсацыю можна расцаніць намер Аляксандра Рыгоравіча перапыніць свае паездкі ў Расію. Ён падкрэсліў, што не хоча ўмешвацца ва ўнутраныя справы суседняй дзяржавы, маючы на ўвазе барацьбу кандыдатаў за прэзідэнцкую пасаду. Адначасова субяседнік журналістаў даў зразумець, што кіраўніцтва рэспублікі станоўча ўспрыняло б факт зацвярджэння Уладзіміра Пуціна на пасадзе кіраўніка. У адказе на пытанне, з чаго трэба было б пачынаць яго будучаму калегу, Лукашэнка загаварыў пра неадкладныя меры па барацьбе з карупцыяй, заўважыўшы напачатку пра «вельмі нізкі ўзровень карумпаванасці дзяржапарату ў Беларусі. Калі выяўляюцца факты карупцыі, з імі вядзецца бязлітасная барацьба, дадаў гаспадар сустрэчы.

Новыя падрабязнасці да «акопнай» пазіцыі Лукашэнкі паведаміў праз некаторы час у другой аўдыторыі віцэ-прэм'ер Леанід Козік. Па яго словах, прыкладна ў другой палове сакавіка пройдзе першае пасяджанне саюзнага Савета Міністраў. А пасля выбараў прэзідэнта Расіі, магчыма ў першай палове красавіка, адбудзецца пасяджанне Вышэйшага Дзяржаўнага Савета. Не называючы іменаў і прозвішчаў, Козік гаварыў пра працэс актыўнай работы над дакументамі, сярод якіх – палажэнне аб Саўміне, статут і рэгламент Вышэйшага дзяржсавета, пералік асноўных мераў на бягучы год па рэалізацыі Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. З далейшай гутаркі вынікала інфармацыя пра непасрэдную заклапочанасць Лукашэнкі фарміраваннем верхняга эшалона ўлады, дзе Лукашэнка рэзервуе пакуль за сабою месца старшыні. ■

## Васіль Быкаў, Радзім Гарэцкі, Стэфанія Станюта ды шмат іншых людзей ужо падпісалі зварот пра скліканьне Усебеларускага З'езда. Вы таксама можаце падпісацца. Пастаўце свае подпісы пад гэтым тэкстам і дашліце на адрас: 220065, Мінск, а/с 297.

**Шаноўныя суайчыннікі, грамадзяне Беларусі!**

На стыку тысячагоддзяў для нашай Бацькаўшчыны надышоў час, калі вырашаецца лёс не толькі сённяшніх пакаленняў, але і нашчадкаў. Вырашаецца пытанне: ці захавае Беларусь магчымасць стаць вольнай заможнай дзяржавай, ці будзе паступова канаць, аддаўшы сваю долю ў чужыя рукі. Мы апынуліся на гістарычнай мяжы, за якой – нацыянальная нябытнасць.

Тыя, хто імкнецца зліквідаваць нашу дзяржаўнасць, бессаромна спасылаюцца на ідэі інтэграцыі і грамадскую думку. Пад хісткай заслонай хлусні і фальсіфікацый яны рыхтуюць здачу суверэнітэту краіны, інкарпарацыю яе ў новую агрэсіўную імперыю. Гэты згубны здрадніцкі працэс неабходна рашуча спыніць. Дзеля гэтага мы звяртаемся да ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны з прапановай правесці ў 2000 годзе Усебеларускі З'езд.

Мэта яго – заявіць усяму свету, што дзяржаўнасць і дабрабыт Беларусі з'яўляюцца для ўсіх нас вышэйшымі каштоўнасцямі, што мы ніколі не дазволім ад нашага імя гандляваць Радзімай. Мы хочам і будзем сцвярджаць працаю і законнасцю сваю роўнасць між цывілізаваных, дэмакратычных народаў, сябруючы і супрацоўнічаючы з імі, уносячы свой непаўторны ўклад у развіццё прагрэсу.

Мы заклікаем неадкладна стварыць аргкамітэт Усебеларускага З'езда і спадзяёмся, што наша ініцыятыва будзе падтрымана ўсімі здаровымі сіламі грамадства.

Калі трэба бараніць незалежнасць роднай дзяржавы, павінны быць адсунуты ўбок палітычныя рознагалоссі, забыты асабістыя крыўды. Разам мы здолеем захаваць сваю краіну.

**Жыве Беларусь!**

**Уважаемые соотечественники, граждане Беларуси!**

На стыке тысячелетий для нашей Отчизны наступило время, когда решается судьба не только нынешних поколений, но и потомков. Решается вопрос: сохранит Беларусь возможность стать свободным богатым государством или будет постепенно угасать, отдав свою долю в чужие руки. Мы оказались у исторической черты, за которой — национальное небытие.

Те, кто стремится ликвидировать нашу государственность, бессовестно ссылаются на идеи интеграции и общественное мнение. Под зыбким прикрытием лжи и фальсификаций они готовят сдачу суверенитета страны, инкорпорацию ее в новую агрессивную империю. Этот губительный предательский процесс необходимо решительно остановить. Ради этого мы обращаемся ко всем патриотам Отечества з предложением провести в 2000 году Всебелорусский Съезд.

Цель его — заявить всему миру, что государственность и благосостояние Беларуси являются для всех нас высшими ценностями, что мы никогда не позволим от нашего имени торговать Родиной. Мы хотим и будем утверждать трудом и законностью свое равенство среди цивилизованных, демократических народов на основе дружбы и сотрудничества с ними, внося свой неповторимый вклад в развитие прогресса.

Мы призываем неотложно создать оргкомитет Всебелорусского Съезда и надеемся, что наша инициатива будет поддержана всеми здоровыми силами общества.

Когда нужно защищать независимость родного государства, должны быть отброшены в сторону политические разногласия, забыты личные обиды. Вместе мы сможем сохранить свою страну.

**Да здравствует Беларусь!**

**Шановні співвітчизники, громадяни Білорусі!**

На стику тисячоліть для нашої Батьківщини надійшов час, коли вирішується доля не лише сьогоднішніх поколінь, але й нащадків. Вирішується питання: чи збереже Білорусь можливість стати вільною, заможною державою або буде поступово канати, віддавши свою долю в чужі руки. Ми опинилися на історичній межі, за якою — національне небуття.

Ті, хто намагається зліквідувати нашу державність, безсоромно посилаються на ідеї інтеграції та громадську думку. Під хисткою заслоною брехні та фальсифікацій вони готують здачу суверенітету країни, її інкорпорацію до нової агресивної імперії. Цей згубний зрадницький процес необхідно рішуче спинити. Заради цього ми звертаємося до всіх патріотів Батьківщини з пропозицією провести в 2000 року Всебілоруський З'їзд.

Його мета — заявити всьому світові, що державність та добробут Білорусі є для всіх нас найвищими цінностями, що ми ніколи не дозволимо від нашого імені торгувати Батьківщиною. Ми хочемо й будемо стверджувати працею та законністю свою рівність між цивілізованими, демократичними народами, подругуючи та співпрацюючи з ними, роблячи свій неповторний внесок у розвиток прогресу.

Ми закликаємо негайно створити оргкомітет Всебілоруського з'їзду і сподіваємося, що нашу ініціативу буде підтримано всіма здоровими силами суспільства.

Коли треба боронити незалежність рідної держави, повинно бути відсунуто вбік політичні розбіжності, забуто особисті образи.

**Хай живе Білорусь!**

*(подпіс)*

## Порна не пройдзе!

Польскі сейм ухваліў законапраект, які забараняе продаж любой парнаграфічнай прадукцыі ў краіне.

Гэты законапраект быў прапанаваны кансерватарамі з «Салідарнасці», якія цяпер маюць большасць у парламенце, і горача падтрыманы каталіцкай царквой. Цяпер прэзідэнт Польшчы, Аляксандр Квасьнеўскі, мусіць альбо падпісаць дакумент, каб той стаў паўнавартасным законам, альбо накласці «вета». Левыя дэпутаты парламента, якія выступаюць супраць татальнай забароны парнаграфіі, вельмі спадзяюцца на прэзідэнцкае «вета».

Калі закон аб парнаграфіі ўсё ж будзе прыняты, то Польшча стане адной з самых бязлітасных краінаў у дачыненні да яе распаўсюднікаў. Парушальнікам закона будуць пагражаць буйныя штрафы, а таксама турэмныя зняволенні тэрмінам да 2 гадоў. За распаўсюджванне дзіцячай парнаграфіі тэрміны зняволення яшчэ вышэйшыя – да 5 гадоў за кратамі. Апроч таго, сейм зрабіў больш жорсткім пакаранне за згвалтаванне – цяпер злачынец за некалькі хвілінаў сексуальнага задавальнення можа расплаціцца 15-гадовай «адсідкай».

Адзін з дэпутатаў сейма ад «Салідарнасці» заявіў: «Я вельмі ўзрадаваны. Прыняцце гэтага закона азначае, што парнаграфічная прадукцыя цалкам знікне з польскіх крамаў».

Прадстаўнікі ж левых колаў Польшчы сцвярджаюць, што такім чынам парнаграфію не вынішчыць – яна проста зойме такое ж месца на «чорным рынку». І, акрамя таго, у законе няма дакладнай фармулёўкі, што ёсць парнаграфія, а што – не.

Пакуль у польскім парламенце і ва ўсім грамадстве працягваюцца палітычныя бойкі вакол закона, варшаўскія секс-шопы ўжо адрэагавалі на яго прыняцце рэзкім зніжэннем цэнаў на сваю прадукцыю.

## Крок да перамір'я

У нядзелю ізраільскі кабінет міністраў аднагалосна ўхваліў вывад сваіх войскаў з паўднёвага Лівана ў тэрмін да ліпеня. Гэты крок можа напэўна спыніць узброенае супрацьстаянне паміж дзвюма краінамі, якое доўжылася на працягу 18 гадоў.

У заяве кабінета міністраў гаворыцца, што гэтае рашэнне было прынятае ў адпаведнасці з планам мірных перамоваў з Сірыяй – асноўнай палітычнай і ваеннай сілай у Ліване. «Нават калі мы не падпішам мірнага пагаднення з Сірыяй, мы проста адвядзем войскі на сваю тэрыторыю», – сцвярджаюць ізраільскія палітыкі.

Адначасова рыхтуюцца планы па далейшым узмацненні паўночнай мяжы Ізраіля – каб абараніць грамадзянаў ад партызанскіх вылазак арабскіх баевікоў з «Хезбалах». Як вядома, у 1967 годзе Ізраіль захапіў у Сірыі частку яе тэрыторыі, вядомай пад назвай Галанскія вышыні. З таго часу Сірыя намагаецца любым чынам вярнуць сабе гэтыя землі – не пазбягаючы і ўзброенага шляху.

# Мільярд доляраў на закрыццё Чарнобыля



Як паведаміў першы віцэ-прэм'ер Украіны Юрый Еханураў, Украіне проста неабходна сёлета атрымаць пазыку ў 1 мільярд доляраў. Гэтыя сродкі дазволяць дабудаваць два новыя ядзерныя рэактары, а Чарнобыль – канчаткова закрыць. Асноўная надзея ўскладаецца на Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця, аднак паралельна працягваецца пошук іншых крэдытораў.

«Украіна зробіць усё – каб толькі атрымаць гэтую пазыку», – заявіў Ю.Еханураў. – Размова ідзе пра тое, што нам трэба ўсяго 1 мільярд». Па словах першага віцэ-прэм'ера, усе ўмовы пазыкі будуць абмяркоўвацца падчас візіту ва Украіну першага віцэ-прэзідэнта ЕБРР Чарлза Франка, запланаванага на сакавік.

Захад ужо шмат разоў заклікаў Украіну закрыць Чарнобыльскую атамную электрастанцыю, пасля таго як у 1986 годзе выбухнуў адзін з яе чатырох рэактараў. Другі рэактар спыніў сваю працу ў 1991 годзе пасля пажару, трэці быў адключаны, калі скончыўся ягоны тэрмін службы. Апошні з рэактараў час ад часу выключаецца для правядзення рамонтных працаў. Урад Украіны заяўляе, што Чарнобыльская АЭС будзе закрытая не раней, чым пачнуць працаваць рэактары на АЭС у Роўна і Хмяльніцкім.

У 1995 годзе «сямёрка» прамыслова развітых дзяржаваў падпісала з Украінай мемарандум. Украіна абавязвалася закрыць Чарнобыльскую АЭС у 2000 годзе, а краіны Захаду ў абмен на гэта абяцалі прафінансаваць пабудову двух новых рэактараў, а таксама і ўзмацненне сістэмы радыяцыйнай бяспекі вакол Чарнобыля. «Сямёрка» паабяцала выплаціць каля 3 мільярдаў доляраў – аднак дагэтуль Украіна атрымала толькі 500 мільёнаў.

Энергетыка Украіны большай часткай базуецца на электрычнасці, выпрацаванай на АЭС. Чатырнаццаць ядзерных рэактараў на 5 атамных станцыях выпрацоўваюць каля 44% ад усяго аб'ёму электраэнергіі. ■

# Галава Мілошавіча ацэненая ў пяць мільёнаў

Амерыканскі ўрад надрукаваў дзесяткі тысяч каляровых плакатаў з партрэтам югаслаўскага прэзідэнта Слабадана Мілошавіча і абяцаннем узнагароды ў 5 мільёнаў доляраў таму, хто дапаможа арыштаваць дыктатара.

Як паведамляюць сусветныя інфармацыйныя агенцтвы, у сакавіку гэтыя плакаты будуць распаўсюджвацца ў Босніі, будуць зробленыя спробы даставіць іх і ў Югаславію. Канешне, наўрад ці ў югаславаў атрымаецца зарабіць на «продажы» свайго прэзідэнта Гаагскаму міжнароднаму трыбуналу, дзе яго ўжо даўно чакае лава падсудных. Аднак такія плакаты маюць вялікае прапагандысцкае значэнне і будуць спрыяць руйнаванню дыктатуры Мілошавіча на Балканах.

Up To $5 Million Reward

Wanted

For crimes against humanity

Slobodan Milosevic
President of the Federal Republic of Yugoslavia

For genocide and crimes against humanity

Radovan Karadzic

Ratko Mladic

Milosevic, Karadzic, and Mladic have been indicted by the United Nations International Criminal Tribunal for the Former Yugoslavia for crimes against humanity, including murders and rapes of thousands of innocent civilians, torture, hostage-taking of peacekeepers, wanton destruction of private property, and the destruction of sacred places. Mladic and Karadzic also have been indicted for genocide.

To bring Milosevic, Karadzic, and Mladic to justice, the United States Government is offering a reward of up to $5 million for information leading to the transfer to, or conviction by, the International Criminal Tribunal for the Former Yugoslavia of any of these individuals or any other person indicted by the International Tribunal.

If you believe you have information, please contact the nearest U.S. embassy or consulate, or write the U.S. Department of State, Diplomatic Security Service at:

REWARDS FOR JUSTICE
Post Office Box 96781 • Washington, D.C. 20090-6781 U.S.A.

Пра тое, што чакае Мілошавіча ў Гаазе, можа даць прадстаўленне працэс над былым харвацкім генералам Ціхамірам Блашкічам. У мінулую пятніцу Міжнародны трыбунал ААН па злачынствах у былой Югаславіі вынес яму прысуд – 45 гадоў турэмнага зняволення. Суд доўжыўся больш за два гады. Генералу інкрымінавалі арганізацыю масавага знішчэння баснійскіх мусульманаў у цэнтральнай частцы Босніі і Герцагавіны. Усе 20 пунктаў абвінавачвання былі доказаныя.

Прысуд па справе Блашкіча – вельмі суровы, у гісторыі трыбунала такога яшчэ не было. Аднак ужо цяпер ясна, што Мілошавіч атрымае (калі атрымае) куды больш. І не факт, што яму «хопіць» пажыццёвага зняволення. ■

## За Радзіму, за Сталіна?

У нядзелю каля пяцісот чалавек у Горы (Грузія) адзначылі 47-ю гадавіну смерці Іосіфа Сталіна.

Яны наладзілі шэсце да помніка правадыру, дзе ўсклалі вянкі, а потым правялі мітынг перад домам, дзе нарадзіўся сусветна вядомы дыктатар. Асноўным арганізатарам мерапрыемства выступаў лідэр кампартыі Грузіі Панцеляймон Геаргадзе.

Дарэчы, летась адзін з унукаў Сталіна, Яўген Джугашвілі, збіраўся балатавацца ў прэзідэнты Грузіі, аднак у яго нічога не атрымалася – Я.Джугашвілі з'яўляецца грамадзянінам Расіі. ■

## У Малдове з'явіліся святло і газ

У мінулым нумары мы паведамлялі, што за няспалату пазыкі расійскі «Газпрам» перапыніў пастаўкі газу ў Малдову. Без электрычнасці і газу засталася ўся краіна. У выніку тэрміновых перамоваў, праведзеных кіраўніцтвам Малдовы з расійскім канцэрнам, была дасягнутая дамоўленасць аб аднаўленні паставак.

Малдова пагадзілася аплаціць «Газпраму» 3,5 мільёны доляраў – доўг за сыравіну, пастаўленую ў першыя два тыдні лютага (нагадаем, што агульная сума запазычанасці складае 180 мільёнаў доляраў). «Газпрам» таксама выбіў сабе права быць манапольным пастаўшчыком газу ў Малдову.

Нягледзячы на тое, што дамоўленасць аб аднаўленні паставак была дасягнутая яшчэ ў мінулы чацвер, рэальна газ пачаў паступаць у кватэры малдаванаў толькі ў нядзелю. Такім чынам, жыхары Малдовы правялі без газу і электрычнасці дзесяць дзён. Куды больш пашанцавала кішынёўцам – у сталіцы крытычная сітуацыя працягвалася толькі чатыры дні. ■

Матэрыялы паласы падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

ЧАЧНЯ

## Расійскія ўлады хаваюць праўду, перакананыя прадстаўніцы Саюза салдацкіх маці

Расійскі Саюз салдацкіх маці лічыць, што афіцыйныя лічбы ахвяраў чачэнскай кампаніі істотна заніжаныя. Як паведаміла адказны сакратар Саюза Валянціна Мельнікава, насамрэч у Чачні ўжо загінула больш за тры тысячы салдатаў, паранена каля шасці з паловай тысяч. Лёс яшчэ 540 чалавек невядомы: салдацкія маці лічаць, што яны зніклі, а федэральнае камандаванне сцвярджае, што гэта проста дэзерціры.

Афіцыйныя лічбы, агучаныя ў пятніцу памочнікам в.а. прэзідэнта Расіі Сяргеем Ястржэмбскім, выглядаюць куды больш сціпла: 1.420 ваеннаслужачых федэральных сілаў загінула, 3.869 чалавек было паранена. ■

## І зноў Чарнакозава

Міжнародная праваабарончая арганізацыя Human Rights Watch абвясціла, што мае новыя доказы жорсткага абыходжання з вязнямі ў фільтрацыйным лагеры «Чарнакозава».

Брытанская Sunday Times цытуе следчага Human Rights Watch Піцера Букарта: «Мы ведаем пра жахлівае і жорсткае абыходжанне з вязнямі, якое мае месца ў лагерах». Як сцвярджае П. Букарт, ён мае сведчанні аб згвалтаваннях, катаваннях і здзеках, якія адбываюцца ў СІЗА «Чарнакозава», а таксама ў іншых фільтрацыйных лагерах на тэрыторыі Чачні. ■

## «Гонар мундзіра» – важнейшы за ўсё

Расійскія кіраўніцтва і генералы, як могуць, імкнуцца заглушыць пратэсты праваабарончых і іншых арганізацыяў супраць дзеянняў расійскіх войскаў у Чачні. Днямі камандуючы Заходняй групоўкай войскаў у Чачні генерал Уладзімір Шаманаў публічна заявіў: «Пад шыльдай АБСЕ, «Урачы без межаў» і іншымі рэальныя праціўнікі Расіі займаюцца выведкай».

А в.а. прэзідэнта Расіі Уладзімір Пуцін адназначна абверг абвінавачванні ў парушэннях правоў чалавека на тэрыторыі Чачні і заявіў, што федэральныя сілы «наладжваюць супрацоўніцтва з насельніцтвам рэспублікі». Гэтую заяву ён зрабіў у нядзельным эфіры праграмы «Сняданак з Фростам» брытанскай тэлекампаніі BBC. Апроч таго, У.Пуцін выказаў яшчэ некалькі «прыемных» для заходняга гледача меркаванняў. Напрыклад, што «пасля заканчэння ваеннай аперацыі ў Чачні рэспубліка будзе цалкам адноўленая», а таксама што «грамадзяне Чачні мусяць зразумець, што яны не пераможаны, а вызвалены народ». Цікава, як гэта чачэнцы адразу не змаглі ўцяміць, што гэта іх не забіваюць, а вызваляюць? ■



## Камітэт для Чачні

У ЗША ствараецца Амерыканскі камітэт для Чачні. Пра гэта паведаміла Радыё «Свабода».

Пакуль вядомыя імёны ягоных трох заснавальнікаў і сустаршыняў. Гэта былы дзяржсакратар ЗША Аляксандр Хэйг, дыпламат і былы старшыня праваабарончай арганізацыі Freedom House («Дом Свабоды») Макс Кампельман і былы памочнік прэзідэнта ЗША па пытаннях нацыянальнай бяспекі Збігнеў Бжэзінскі.

Вось што распавёў Збігнеў Бжэзінскі для Радыё «Свабода»: «Наш камітэт быў утвораны па двух прычынах. Першая – гуманітарная. Тое, што адбываецца ў Чачні, – гэта форма генацыду. Цяпер гэта трагедыя для чачэнцаў, аднак у выніку гэта стане трагедыяй і для ўсіх расіянаў. Яна можа скончыцца вынішчэннем чачэнскага народа...

Па-другое, тое, што адбываецца ў Чачні, – гэта геапалітычная праблема. Нестабільнасць і ўзброены канфлікт на паўночным Каўказе могуць дэстабілізаваць сітуацыю на поўдні Каўказа... Нестабільнасць вакол Чачні можа нарадзіць новую напругу ў стасунках паміж Усходам і Захадам».

Як тлумачыць З.Бжэзінскі, генацыд – гэта не абавязкова фізічнае вынішчэнне ўсіх людзей адной нацыянальнасці. Генацыд – гэта дзеянні, якія ставяць мэтай поўнае вынішчэнне нацыі, альбо дзеянні, у выніку якіх гэтае вынішчэнне можа адбыцца. І гэта менавіта тое, што цяпер адбываецца ў Чачні.

Вось што ўжо прапаноўвае новаўтвораны камітэт амерыканскім палітыкам: выказацца супраць выдзялення пазыкаў Расіі, пакуль ідзе вайна, пачаць перамовы з краінамі «сямёркі», каб пазбавіць Расію права ўдзельнічаць у яе паседжаннях, заклікаць ААН прызначыць спецыяльнага прадстаўніка па Чачні з правам расследаваць парушэнні Жэнеўскіх канвенцыяў, якія Расія ўчыніла ў Чачні, – дывановыя бамбардзіроўкі гарадоў, стварэнне «фільтрацыйных лагераў» і інш., распачаць збор гуманітарнай дапамогі для тых, хто застаўся ў Чачні і хто ўцёк у суседнюю Інгушэцію, і г.д. І гэта не проста словы – да гэтых прапановаў ужо прыслухоўваюцца ўплывовыя амерыканскія кангрэсмены і сенатары. ■

РОЗДУМ

# Традыцыя фемінізму

Алена ВАРАНЬКО

**У НАШАЙ СВАБОДЗЕ ад 29 лютага быў надрукаваны артыкул С.Курс «Чалавек-жанчына». Паважаючы думку аўтара, я мушу аднак заўважыць, што гэты артыкул – бяздумная калька з безлічы падобных заходніх. Ён мае на мэце прывіць на Беларусі заходнюю форму фемінізму, без уліку сітуацыі, што склалася ў нас. Беларусь – не ісламскі Іран і не Афрыка. У нас праблемы крыху інакш павернутыя і вымагаюць інакшага, новага вырашэння.**

У беларускім заканадаўстве сапраўды адсутнічаюць дыскрымінацыйныя для жанчын нормы. Больш за тое, дыскрымінуюцца мужчыны. Так, паводле Крымінальнага кодэкса, жанчыны не могуць быць прыгавораныя да смяротнай кары, для іх існуюць больш мяккія ўмовы ўтрымання, цяжарныя і маці малалетніх дзяцей не могуць падвяргацца арышту. Для жанчыны, якая здзейсніла злачынства ў стане цяжарнасці, прадугледжанае змякчэнне пакарання. Мяне гэта задавальняе.

У новым Працоўным кодэксе прадугледжанае права жанчынам самім вырашаць – карыстацца ільготамі ці не. Жанчына па ўласным выбары можа рэгламентаваць начныя і звышнарматыўныя працы, абіраць працяглыя службовыя паездкі, адмаўляцца ад адпачынку па доглядзе за дзіцем. Ды і раней з гэтым не было праблемаў, можна было дамовіцца з наймальнікам. Наймальніку няважна, у штанах ты ці ў спадніцы. Калі ты валодаеш высокім прафесіяналізмам, можаш фармуляваць думку, пераконваць людзей, ставіць грамадскае прызначэнне нароўні з сямейным, хто табе можа перашкодзіць у кар'еры? Наймальнікі не бяруць на працу жанчын не таму, што яны жанчыны, а таму, што сапраўды нявыгадна плаціць адпускныя заміж таго, каб аплаціць неабходныя для прадпрыемства паслугі. Я займаюся прадпрымальніцтвам, плачу падаткі на сацыяльныя патрэбы, то навошта мне яшчэ і браць на ўтрыманне дамаседку з дзецьмі? Тыя ж наймальнікі неахвотна бяруць на працу маладых людзей, што не адслужылі ў войску, але ніхто з гэтай прычыны не гаворыць аб дыскрымінацыі маладых мужчын. Заробак мужчыны і жанчыны атрымліваюць у нас за адну і тую ж працу аднолькавы. А калі кабеты абіраюць сабе жабрацкую працу ў нематэрыяльнай сферы, то гэта зноў жа праблема заніжанай самаацэнкі, адсутнасці годнасці.

Пра ўдзел жанчын у прыняцці рашэнняў. А ці многія жанчыны выбіраюць палітыку альбо грамадскую дзейнасць? Многія самі аддаюць перавагу сямейным і асабістым радасцям. Многія не вераць ва ўласныя сілы і, паўтаруся, не валодаюць прафесійнымі навыкамі, бо ставілі ў жыцці мэту дасягнуць вышыняў пры дапамозе ўдалага замужжа. У нас ёсць прыклады паспяховых жанчын, якія ўтульна адчувалі і адчуваюць сябе ў палітыцы, бізнесе, мастацтве. Гэта спадарыні Ж.Літвіна, Т.Процька, Г.Сурмач, нябожчыца Т.Дудко, банкіркі Н.Ермакова і Т.Віннікава, фотамастачка Алена Адамчык, многія сучасныя паэткі і пісьменніцы. Я паўтаруся: калі жанчына граматна і лагічна выкажа перадвыбарчую праграму, падасца кантактным, сімпатычным, спагадлівым і ўплывовым чалавекам, то ёй няма чаго наракаць, што выбаршчыкі абралі мужчыну.

Я бачу іншую праблему: нашыя мужчыны ў масе выпадкаў мізарнеюць, прыносяць усё меншы заробак, усё больш часу і грошай аддаюць на гарэлку. Жанчыны вядуць рэй і ў сям'і, і на працы, аднаасобна выхоўваюць дзяцей. Жанчыны, у рэшце рэшт, жывуць нашмат даўжэй. Мае партнёры па бізнесу з Расіі і іншых краінаў не раз казалі мне, што беларускі больш мужныя і адказныя за беларусаў і нават больш прыемныя знешне.

Наконт гвалту. Я сустракала лічбы, што не 70% ахвяраў, а каля 95% складаюць жанчыны. Гэта зноў жа праблема ментальная. У выпадку ката і ахвяры найчасцей бывае так, што вінаватыя абодва. Нельга папускацца. Нашы жанчыны часам на ўсё гатовыя, абы ўтрымаць мужыка, нават п'яніцу, брыдкаслова, хама і забіяку. Дэфармуюць сваю асобу, псуюць жыццё дзяцей. Гэтаму ёсць і матэрыяльнае вытлумачэнне – жабрацтва і адсутнасць жыллёвых перспектываў. Але заўжды можна ўзяць табурэтку і адхадзіць хама па рэбрах. Другі раз не палезе. Страх і прыніжанасць толькі расцвельваюць. Звычайна жанчыны не слабейшыя фізічна. А ногі і клубы, як паказваюць навуковыя даследаванні, у нас мацнейшыя.

Аднак я ахвотна згаджаюся з С.Курс наконт неабходнасці сховаў і прытулкаў для ахвяр хатняга гвалту, стварэння «гарачых ліній», псіхалагічных і адукацыйных семінараў і трэнінгаў. Але яны павінны ахопліваць і дзяцей з няўдалых сем'яў, і бездапаможных старых, якіх дзеці зжываюць са свету, і г. д.

Традыцыйны фемінізм сваё ў Беларусі аджыў, так і не прыжыўшыся. Ён нават абразлівы. Калі змагаюцца за мае правы, значыць, бачаць маю прыгнечанасць і непаўнавартасць. Я – моцны чалавек з наборам правоў, я адстаю іх сама даступнымі мне сродкамі – розумам, воляй, годнасцю, мэтанакіраванасцю. А што я жанчына, я ўзгадваю толькі, калі фліртую альбо купляю адзенне. Наш, беларускі феёмінізм павінен стаць складнікам агульнага руху за павышэнне сацыяльна-эканамічнай, маральнай, экалагічнай сітуацыі ў дзяржаве. Зараз у нас пакрыўджаныя ўсе – мужчыны, жанчыны, дзеці, старыя, беларусы, яўрэі, палякі, прадпрымальнікі, рабочыя, бюджэтнікі і г.д. Пакрыўджаны чалавек увогуле. На сістэмныя змены, гуманістычныя змены мы і павінны працаваць. ■

# «Открытые двери»

## Тысячи больных детей могут начать полноценную жизнь. Если им помочь...

Наталья РАДИНА

**Этих детей врачи признали безнадежными. От них отказались все учебные заведения, даже интернаты для детей с психофизическими отклонениями. Они беспомощны и несамостоятельны, часто не могут двигаться и разговаривать, они никогда не научатся читать и писать. Это дети с тяжелой степенью умственной ограниченности больные церебральным параличом и эпилепсией.**


Фота Ул.ШЛАПАКА

До недавнего времени этих детей в буквальном смысле старались убрать с глаз подальше. Государство предлагало родителям таких детей только один вариант – отдавать в детский дом-интернат «Новинки». Эта устоявшаяся советская модель – содержание людей с психофизическими отклонениями в больших интернатах закрытого типа – действует и сегодня. Например, в детдоме «Новинки» живут более 200 детей. Многие из них «отказные», некоторые имеют родителей, которые появляются здесь редко. Так что, кроме того, что эти дети – инвалиды, они еще и сироты. Они живут в палатах по 15 человек, и в одном отделении содержатся дети с разными психическими и физическими ограничениями. Большая разница и в возрасте: вместе с маленькими детьми живут подростки и, даже, взрослые. Только с недавнего времени с детьми стали работать дефектологи и педагоги, а до этого такие дети бродили по коридорам интерната, никому не нужные, выброшенные из жизни — выбракованный человеческий материал.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Когда больной ребенок остается в семье, мать не может оставить своего беспомощного ребенка одного ни на минуту и потому полностью или частично превращается в пожизненную сиделку при ребенке-инвалиде. Многие семьи, где растет ребенок с психофизическими отклонениями, распадаются. Ведь мать, ухаживая за ребенком, органически чувствует его беспомощность и любит малыша независимо от его состояния. Отца же одолевают мысли, каким вырастет его сын (или дочь), что в дальнейшем ждет этого младенца. И если он не видит никаких перспектив, а жена всецело поглощена уходом за ребенком, то будущее начинает казаться ему беспросветным, и он может покинуть семью.

Сегодня у этих больных детей и их родителей появился шанс жить полноценной жизнью, а не существовать в закрытом пространстве, постоянно чувствуя свою ненужность. И у нас началось осмысление того, что Бог создал нас разными, но равными.

Белорусская ассоциация помощи детям-инвалидам и молодым инвалидам объединила более 3.500 семей, воспитывающих детей с ограниченными возможностями. В 1998 году этой ассоциацией был открыт дневной реабилитационно-адаптационный центр «Открытые двери». Детей сюда приводят родители. Совсем другое дело, когда утро начинается с маминой руки, а затем и внимания специалистов. Самое главное, что сохраняется семья, ребенок не утрачивает ту любовь, которая помогает ему преодолевать болезнь. Ласка и забота матери являются залогом полноценного психического развития любого ребенка. Развитие детей с ограниченными возможностями идет по тем же законам, что и здоровых, с той лишь разницей, что эти дети обладают значительно меньшими возможностями для адаптации к окружающему миру. Раньше говорили лишь об ущербности и ограниченности этих детей. В «Открытых дверях» прежде всего уделяется внимание развитию возможностей больных детей до максимума. В центре знают, что необучаемых детей нет. Если малышу не под силу натянуть колготки, то он, возможно, самостоятельно наденет панаму. Если ребенок не сможет выложить из палочек простую фигурку, то он соберет их и сложит в коробку. Важно лишь подобрать доступное для него занятие и запастись терпением. Скольких детей в центре учили кушать ложкой, застегивать пуговицы на одежде, самостоятельно расчесываться, делать те движения, которые нам, здоровым людям, кажутся элементарными. А этим детям – по 15-20 лет. До этого дети сидели дома, и родители сами кормили их, одевали, расчесывали, не зная, что их можно всему этому обучить. Главное адаптировать этих людей к жизни в обществе. Научить их жить, не надеясь на помощь родителей. Ведь родители не вечны, а беспомощные дети без них просто погибнут.

Дети приходят в реабилитационный центр каждый день, кроме выходных. Там они с 9 до 17 имеют возможность не только пообщаться со сверстниками, избавиться от одиночества, завести друзей. Этих детей обучают самообслуживанию, ручному труду: они пытаются научиться стирать, утюжить, подметать полы, пришивать пуговицы. Детей даже учат играть. Для более взрослых проводятся занятия по обработке дерева, керамике, швейному делу. Детям нравится возиться с глиной. Они лепят забавные игрушки, делают деревянные рамки для фотографии мамы.

Это доказывает, что люди с ограниченными возможностями могут и должны работать. Но по трудовому законодательству Республики Беларусь, на предприятиях могут работать до 5 процентов инвалидов. Реалии жизни сегодня таковы, что не каждый трудоспособный человек сегодня имеет работу, что уж говорить о больных людях. Но ассоциация нашла ответ и на этот трудный вопрос. Недавно при поддержке БелАПДИиМИ был открыт цех по изготовлению чипсов на ОАО Пружанского маслосырзавода. Здесь теперь работают 8 подростков и молодых людей с умственными и физическими ограничениями. Пока это первое и единственное предприятие, где работают подростки-инвалиды шестнадцати лет и старше. Их рабочий день ограничен четырьмя часами, и они счастливы ощущать себя действительно полноценными людьми, работниками, гражданами.

В «Открытых дверях» с детьми работают педагоги, психологи, дефектологи, ортопеды, а также врач-эрготерапевт. Эрготерапия помогает развить движения ребенка, больного детским церебральным параличом, до максимума. Для этого за рубежом было закуплено специальное оборудование. В центре проходят занятия музыкотерапии и арт-терапии. Кто-то из детей под воздействием музыки открывает в себе способности к рисованию. Недавно в Академии искусств проходила выставка рисунков детей-инвалидов. И один из отзывов посетителей был таким: «Если бы не предупредили, какие это «необычные» дети, так ни за что не догадались бы».

С недавнего времени реабилитационно-адаптационный центр стал работать с совсем маленькими детьми, у которых после рождения были обнаружены патологии развития. Это увеличивает вероятность полного или частичного выздоровления ребенка к школьному возрасту.

Как показала практика, эта модель работы с детьми с ограниченными возможностями намного эффективнее и дешевле, чем содержание их в интернатах. Единственное, чего недостает «Открытым дверям», – просторного помещения, так как сегодня в центре тесно, а детей постоянно прибывает. К примеру, занятия по керамике, рисованию, деревообработке, шитью проходят в небольшой комнате. В другой дети играют, занимаются лечебной физкультурой. А массаж вообще приходится делать на столе в комнате администрации.

Центр «Открытые двери» изначально создавался для детей Московского района города Минска, но поскольку сегодня подобный центр единственный в городе, то сюда собираются дети со всего Минска. Поэтому сегодня надо думать об открытии реабилитационных центров в каждом районе города, поскольку возить детей каждый день в отдаленный микрорайон очень неудобно, ведь самостоятельно они не могут передвигаться. По этой причине, сколько еще тяжело больных детей сидит дома? Стоит серьезно задуматься и о развитии центров по всей республике. Ведь в маленьких городах для работы с такими детьми не привлекают психологов, невропатологов, дефектологов, ортопедов. Поэтому сегодня сотрудники БРА-центра выезжают командой в различные регионы республики, где консультируют детей с умственными и физическими особенностями в развитии, уговаривают горисполкомы содействовать открытию филиалов «Открытых дверей». ■

НАЗІРАЛЬНІК

# Наше не «наше» ТВ

**Валентина ТАРАН**

Вы не поверите, но на днях совершенно случайно удалось найти явление, которое объединяет жителей нашей страны! Независимо от возраста, пола, профессии, образования, политических и культурных пристрастий, что само по себе уже феноменально. Правда, объединяет в отрицании этого явления. Но единодушие потрясающее! Маленькая деталь — явление пока еще только предполагается, но активно не желают его пришествия все, с кем пришлось пообщаться по этому поводу: от младших школьников до почтенных пенсионеров. И речь ни о конце света, землетрясении или войне — тут все как раз было бы понятно. Все куда прозаичнее, всего навсего — БТ-2! Люди паникуют по поводу озвученных планов создания второго белорусского телеканала на частотах одного из уже существующих российских. Как оказалось, БТ-2 не ждут. Более того — его боятся, его не хотят! Почему? Имеют горький опыт общения с единственным пока белорусским каналом!



Те почти три десятка человек, с которыми пришлось пообщаться на заданную тему в течение нескольких часов по телефону, национальное телевидение не считают своим. Говорят о нем отстраненно, дистанцируясь — «их телевидение», «их программы» и никогда — «наше», «наши». Что на самом деле очень тревожно. Самое распространенное заявление в обобщенном виде выглядит так: «Белорусское телевидение не смотрю, потому что оно плохое». Не являясь фанатом отечественного БТ, пришлось, разговаривая со встревоженными телезрителями, стать чуть ли ни на его защиту. Поскольку нет ничего противней известного принципа «Пастернака не читал, но осуждаю». Однако, в общении выяснилось, что, худо-бедно, собеседники «Пастернака» читали. И о предмете судят не понаслышке: БТ все же иногда посматривают. Но довольных, практически, нет.

Конечно, три десятка позвонивших не отражают весь спектр мнений, но почему бы не прислушаться и к этим людям.

Раздражает телезрителей тенденциозность БТ, его неоперативность, мелькание на экране одного и того же лица. А главное — отсутствие объективности. Смотрят большей частью новостные программы. Общий вывод неутешительный: «Уровень информации, поступающий с белорусского экрана, очень низкого качества». Но это самый мягкий отзыв. Наиболее жесткий звучит вот так: «Я все передачи пытаюсь по БТ-1 смотреть, но долго не могу себя насиловать, настолько все примитивно, заучено. Вживую, наверно, не выходит ни одна передача. Люди плюются от такого телевидения».

Ну плюются не плюются, а все же каждый свое пытается найти. Кто-то смотрит «Телебарометр», кто-то для ребенка включает «Калыханку», называли передачи «Сегодня с вами», «Все нормально, мама», «Зорную ростань», спортивные передачи. В общем, негусто. Поэтому мнение: «Когда ни включи БТ — либо посиделки, либо пляски» — не выглядит слишком категоричным.

Тележурналистов, ведущих и дикторов пофамильно почти никто не помнит. Наиболее распространенное «ну, такой — с усами». Правда, Зимовский свой орден, пожалуй, заслужил. Его программу и фамилию знают. Пусть даже и в таком контексте: «Я не могу включать белорусское телевидение из-за господина Зимовского! Зачем ему имитировать Доренко, если он не Доренко?». У тех, кто телевизор все же включать рискует, свои претензии к комментатору: «Я хочу знать не только мнение Зимовского, но и слышать других людей, сопоставлять и выбирать, а это практически невозможно».

На мой взгляд, если кто из телеведущих и пытается «играть в Доренко», т.е. зло язвить, унижать оппонента, не взирая на его заслуги, передергивать факты, то это скорее Юрий Козиятко. Но, увы, пока свой потенциал он расходует впустую. Его субботнюю программу не видел ни один из моих собеседников. Не сложилось.

И как общий приговор телевизионщикам: «Белорусские передачи одноплановые, одноидейные. А ведь жизнь многогранна и разнообразна. Вот она-то и отсутствует на белорусском экране». И еще одно часто повторяемое наблюдение: «Где белорусские тележурналисты отлавливают людей для опросов? Наверное, по выражению лиц подбирают. Потому что таких, удручающе со всем согласных людей, в реальной жизни не встретишь».

Что касается пресловутого тезиса о конкуренции, которая при наличии двух белорусских каналов резко улучшит качество отечественного телевещания, у собеседников преобладал полный скепсис. От наиболее распространенного: «Не верю ни в какую конкуренцию, потому что хорошо знаю всех белорусских тележурналистов», до подозрительного: «Если бы они хотели улучшить свое телевидение, то давно бы это сделали. Они не хуже нас понимают, что хорошо, а что плохо. Значит, их устраивает тот уровень компетенции, на котором они сейчас пребывают». Правда, наличествует и почти материнский подход к проблеме конкуренции. «БТ-1 и БТ-2 — будут близнецами-братьями. Не следует рожать второго ребенка, если не в силах обеспечить первого. Зачем же еще одного голого и босого на свет пускать, не накормив и не воспитав единственного?» Кто бы спорил...

Жирной точкой в диспуте о благотворности соревнования двух БТ может быть отчаянное: «Жутковато остаться с двумя белорусскими каналами». Многие позвонившие опасаются именно такого исхода.

Принявшая участие в телефонном общении тележурналистка предложила в качестве аргумента, как она выразилась, профессиональный анекдот. «Чем БТ отличается от ночной вазы? Содержание одно и тоже, но в ночной вазе лучше видно».

Грубовато, конечно, но с профессионалами трудно спорить. Им хочется верить. Даже если это директор научно-исследовательского института при администрации президента, с представительной трибуны заявивший о резком росте рейтинга программ БТ. Оказывается, «Политические диалоги» и «Падзея» набирают более 30 процентов. Ура им! Это мои любимые передачи — приходилось писать о недостатках и несуразицах. И после критики такой рост популярности у зрителей! Как не порадоваться... Только вот мои собеседники, к сожалению, пока не заметили бешеного успеха этих программ. Один из них даже заметил: «Бедный Евгений Киселев, он на днях гордился высоким рейтингом программы НТВ «Куклы» — 18 процентов... Пора, оказывается, всем учиться у белорусских телевизионщиков. Так что, даешь БТ-2, которое будет иметь рейтинг 99,9 процента!» Как любят говорить на ТВ, на этой оптимистичной ноте попрощаемся. ■

АДУКАЦЫЯ

# Духоўны пошук сп. Васіля Стражава

## Міністр адукацыі РБ мяркуе, што прыспеў час праваславізацыі школы

**Мікола САХОНЧЫК,**
**настаўнік хіміі**

Па сведчаннях прэсы Аддзел рэлігійнай адукацыі і катэхізацыі Маскоўскага Патрыярхата не так даўно правёў у сталіцы Расіі 8-я Калядныя адукацыйныя чытанні, прысвечаныя гэтым разам 2000-годдзю Раства Хрыстова. Гэтае ўрачыстае мерапрыемства не абмінуў удзелам міністр адукацыі РБ Васіль Стражаў. На пленарным пасяджэнні ён нават выступіў з дакладам, які меў назву «Праблемы духоўнага абнаўлення школы».

Цалкам тэкст даклада, на жаль, не друкаваўся, але і вынятні з яго даволі красамоўныя. Спадар Стражаў пачаў прамову з прызнання, што ён *«заўсёды ў сваіх выступленнях канцэнтроўваў увагу на адукацыйных праблемах у іх сувязі з узаемнымі намаганнямі Праваслаўнай Царквы і сістэмы адукацыі ў справе выхавання чалавека-грамадзяніна, чалавека-патрыёта»*. Як школьнага настаўніка мяне, зразумела, цікавіць установка міністра на выхаванне будучых грамадзянаў і патрыётаў, бо яна нейкім чынам будзе «спушчана» ў школы. *«Якое ж месца ў гэтым адукацыйным працэсе настаўніка школы?»* — рытарычна запытаў міністр. І сам паведаў якое: *«Тут мы сутыкаемся з праблемай рашэння, напэўна, самага пакутлівага для чалавека пытання — пытання веры і няверя»*. Чаму міністр Стражаў лічыць гэтае пытанне самым пакутлівым, не ведаю. Магчыма, з уласнага вопыту. А можа, вымулена было проста для зручнасці пераходу да галоўнай тэмы. Бо далей міністр паглыбіўся ў тэалагічна-псіхалагічную праблематыку. *«Чалавек, грамадства знаходзяць у няверʼі часовы паратунак, абапіраючыся перадусім на інтэлект. Адзін з важнейшых накірункаў рэформы нашай школы бачыцца мне ў змяненні арыентацыі інтэлектуальнага выхавання. Па сённяшні дзень наша школа жыве пад лозунгам «Веды — сіла», фарміруючы асобу, узброеную верай ва ўсемагутнасць розуму. Я не адмаўляю неабходнасці інтэлектуальнага выхавання. Больш таго, менавіта ў высокім узроўні інтэлектуальнай падрыхтоўкі — адно з найважнейшых дасягненняў і пераваг нашай школы. Але мы павінны навучыць дзіця і сумнявацца ва ўсемагутнасці розуму. А такая магчымасць, як і магчымасць глыбока асабістага, канкрэтна мастацкага ўспрыняцця Бога не можа зʼявіцца без набыцця асабістай свабоды»*.

Хто ж перашкаджае дзіцяці набываць асабістую свабоду дзеля «канкрэтна мастацкага ўспрыняцця Бога»? Па словах міністра, гэта *«наша школа... робіць усё, каб абмежаваць яго свабоду, адвучыць быць свабоднай асобай»*. Але не толькі распрацаваныя міністэрствам праграмы, метадычкі, падручнікі перашкаджалі і адвучвалі дзяцей ад асабістай свабоды. *«Сёння, на жаль, СМІ і масавая культура, — працягваў міністр, — зрабілі вельмі многае, каб укараніць у свядомасць нашых дзяцей менавіта ўяўнае разуменне свабоды. Пераадолець гэтую небяспеку дазваляе адна з глыбінных асноў праведзімых пераўтварэнняў — імкненне пабудаваць школьнае жыццё на аснове хрысціянскіх каштоўнасцей»*.

Але як пакласці ў аснову выхавання школьнікаў хрысціянскія каштоўнасці, калі ёсць шмат бацькоў і дзяцей, арыентаваных на каштоўнасці агульначалавечыя? Па словах міністра, патрэбна рэформа асветы пад лозунгам *«Ад адукацыі для ўсіх да адукацыі для кожнага»*, *«трэба змяніць тэхналогіі зместу навучання, іншае асяроддзе зносін, зняць існуючыя барʼеры паміж настаўнікам і вучнем. Калі наша школа здолее гэта зрабіць*, — даводзіў міністр Стражаў удзельнікам чытанняў, — *яна выканае свой абавязак... які заключаецца ў выхаванні свабоднай, любячай, добрай асобы, адкрытай да ўспрыняцця Бога»*.

Калі б сп. Стражаў быў дырэктарам нядзельнай праваслаўнай школы, я мог бы яго зразумець. Але такое бачанне абавязку свецкай школы вачыма міністра адукацыі мяне моцна палохае. Наўрад ці я і сотні іншых настаўнікаў будзем патрэбныя такой рэфармаванай школе, бо, прыкладам, я сам — агностык, я нічога не ведаю пра Бога. Не магу зразумець, адкуль можа ведаць пра Бога сп. Стражаў. Дапускаю, што ён шчыра верыць. Але вера — гэта справа субʼектыўная.

Я ўсё сваё педагагічнае жыццё вучыў дзяцей таму, што практыка правярае тэорыю і што ў навуцы, у тым ліку і ў яе школьных адлюстраваннях, няма месца веры. Зараз адкрылася, што ўсе так моцна вераць у Бога, ведаюць пра яго, а малітву лічаць духоўнай дзеяй.

І галоўнае. Я наогул лічу, што Царкве няма чаго рабіць у агульнаадукацыйнай школе. Ну, якога грамадзяніна, сп. Стражаў, можа выхоўваць Царква, якая ёсць непрыхаваны таталітарны інстытут з падпарадкаваннем знізу даверху, з рытуаламі феадальнага часу? Ці Вы як міністр працуеце па модзе часу? Калі на Калядах паказваюць па тэлевізіі, што ў царкве ўсім складам стаіць урад краіны, і стаіць асобна ад простых вернікаў, дык гэта не вера ў Бога і не свабода, а відавочнае вяртанне ў сярэднявечча з яго саслоўным падзелам людзей. Дзе тут роўнасць грамадзянскіх правоў? Паслухайце, спадар міністр, перадачы нашых абаронцаў праваслаўя па радыё — колькі нянавісці выліваецца ў эфір на так званых сектантаў (пратэстантаў) і каталікоў, як старанна даводзіцца, што Беларусь праваслаўная краіна, што ўсе тут вернікі і г. д. І я буду змушаны навучаць гэтай няпраўдзе дзяцей, «ламаць барʼеры» — хадзіць разам з дзецьмі ў царкву, навучаць іх сумнявацца ў розуме.

Ці ў сваім Вы інтэлекце, спадар міністр? ■

АРЫЕНЦІР

# Падставы законнасці




**Ілля СЯРЭДЗІЧ**

Добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры выдае штогадовы зборнік «Каштоўнасці мінуўшчыны». Яго змест складаюць артыкулы гісторыкаў, рэстаўратараў, мастацтвазнаўцаў, археолагаў. Кожны штогадовік прысвечаны пэўнай праблематыцы. Прыкладам, зборнік «Каштоўнасці мінуўшчыны-1» засяроджваў увагу на зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны Мінска. Зборнік, выдадзены ў мінулым годзе, склалі артыкулы па праблемах захавання архітэктурнай спадчыны савецкага перыяду. Выданні, апроч спецыялістаў, арыентаваныя на ўвагу тых краязнаўцаў і аматараў гісторыі, якія занепакоены станам зберажэння нашай спадчыны. Апошні зборнік Таварыства дапоўніла вельмі каштоўным дадаткам. Гэта дакументы, якія ў нас раней не публікаваліся і якія немагчыма было знайсці нават у фундаментальных бібліятэках. Гэты дадатак складаюць «Міжнародная Хартыя па кансервацыі і рэстаўрацыі помнікаў і незвычайных мясцін (Венецыя, 1964 г.)», «Канвенцыя ЮНЕСКО аб ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны, 1972 г.», «Міжнародная Хартыя па ахове гістарычных гарадоў (Вашынгтон, 1987 г.)», «Міжнародная Хартыя архітэктурнай спадчыны (Масква, 1996 г.)».

Знаёмства з гэтымі дакументамі дае магчымасць даследчанай абʼектыўнай ацэнкі таго, што робіцца з помнікамі ў нашым наваколлі, наколькі клопат пра спадчыну адпавядае базавым міжнародным хартыям і канвенцыям.

Паколькі Таварыства адпаведна свайго статута некамерцыйная арганізацыя, быв названыя зборнікі, на жаль, не паступаюць у продаж. Пазнаёміцца з імі можна ў рэгіянальных сядзібах Таварыства.




Зараз рыхтуецца да выдання чарговы зборнік «Каштоўнасці мінуўшчыны», прысвечаны праблемам культавага дойлідства. Ён мае дадаткам тэксты «Гаагскай Канвенцыі аб ахове культурных каштоўнасцяў у выпадку ўзброенага канфлікту ад 1954 г.» і «Пратакол» да яе, прынятыя ў Гаазе ў 1999 г. ■

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# Ісцец стане адказчыкам

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Не даставала паказанняў апошняга сведкі ў судовай справе «старшыня БФФ Фёдараў – газета «Прэсбол», што праходзіць у будынку суда Цэнтральнага раёна г.Мінска. Гэтым сведкам стаў былы супрацоўнік кіруючага штаба Беларускай Федэрацыі футбола Віктар Новікаў, які ў свой час звольніўся з БФФ са скандалам, абвінаваціўшы Фёдарава і іншых у шматразовым парушэнні футбольнага статуту і іншых законаў. Суддзя П.Кіркоўскі, які, дарэчы, з'яўляецца старшынёю суда Цэнтральнага раёна, заняў прынцыповую пазіцыю і не жадаў працягваць працэс без паказанняў Новікава. Сам жа сведка ў суд не з'яўляўся, бо па адной з версіяў яму «свеціць» кар'ера ў міністэрстве замежных справаў, і ён не хоча «пэцкаць» свой твар удзелам у судовых разбіральніцтвах.

Але, як бы там ні было, суддзя аддаў загад аб прымусовым прыводзе Новікава ў суд, і той палічыў за лепшае прыйсці і даць паказанні.

Усё тое, што казаў Новікаў на допыце, – толькі пацвердзіла высновы, зробленыя журналістамі «Прэсбола» ў сваіх публікацыях. Аднак канчатковыя высновы рабіць усё ж суддзі Кіркоўскаму, які адклаў працяг (і, напэўна, заканчэнне працэсу) на 10 сакавіка, пятніцу.

Між тым цікавай асаблівасцю судовых разборак робіцца той факт, што 7 сакавіка бакі памяняюцца ролямі. Інакш кажучы, Фёдараў стане адказчыкам, а «Прэсбол» істцом, бо ў гэты дзень, у гэтым жа судзе, пад старшынствам Тамары Злобіч пачнецца разгляд іску ў адказ газеты да старшыні БФФ, афіцыйнага друкаванага органа БФФ газеты «Всё о футболе» і журналісткі гэтай газеты аб абароне гонару і годнасці. Патрабаванні, пастаўленыя журналістамі, – значна больш сур'ёзныя за Фёдараўскія. Гэта выплата кампенсацыі за маральную шкоду, нанесеную артыкулам у «Всё о футболе», у памеры 100 мільёнаў дэнамінаваных беларускіх рублёў з газеты, 20 мільёнаў з самога Фёдарава і 1 рубель з журналісткі, якая напісала артыкул.

Відавочна, што ў бліжэйшы месяц абодва бакі толькі і будуць праводзіць час, што ў судах. Нейкі востры на язык назіральнік прапанаваў нават адкрыць у будынку суда філіялы «Прэсбола» і Беларускай Федэрацыі футбола. ■

РЭХА






# На ўсіх не стане

Рэдакцыя атрымала ліст чытачкі, якая адгукнулася на рэцэнзію Я. Гучка «Асветленая павагай» на кнігу Кастуся Тарасава «Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей». Ліст цалкам добразычлівы, аўтарка згодная, што і малюнкі прыгожыя, і тэксты да іх цікавыя, але шкадуе, што кніга напісана ў беларускай мове. На яе думку, было б лепш, калі б аўтар напісаў «Беларусь» на рускай мове. Быў бы і большы попыт, і працэй было б дзецям даведацца пра даўніну роднай краіны.

Што адказаць? Кніга выдадзена тыражом 3.000 асобнікаў. Калі падзяліць 10.000.000 насельніцтва Беларусі на лічбу накладу, дык атрымаецца, што адна кніга прыпадае на 3.300 чалавек, ці ў сярэднім на 800 сем'яў. Гэта азначае, што выданне рарытэтнае, у лепшым выпадку, у бальшыні мястэчак будзе адна кніга на ўсе дамы. Варта мець у сваёй бібліятэцы такое выданне хоць бы з-за ягонай рэдкасці. А што тычыцца дзяцей, дык прачытаць кнігу па-беларуску ім будзе карысна, каб заахвоціць мовай роднай краіны. Ды і як на рускай мове праспяваць «Зорку Венеру» Багдановіча ці «Спадчыну» Янкі Купалы?

Я. Г.

**Падрабязныя звесткі пра кнігу можна атрымаць у Таварыстве беларускай мовы, тэл.: 284-85-11, а таксама па тэл.: 234-13-37 (пасля 21.00).**





**Несколько дней назад БТ в «Панораме» обратило внимание слушателей на публикацию в Интернете на стр. газеты «Правда» сенсационного материала о смерти Б.Н.Ельцина за пять месяцев до отставки. Поверить в такое невозможно, но многие люди, не имеющие возможности войти в Интернет, интересуются содержанием публикации, чтобы самостоятельно оценить ее содержание и смысл. Мы публикуем этот материал в сокращении. Насколько эта история ирреальна – судить читателю.**

# Версия. Ельцин умер 7 августа?

**До сих пор нет ясного ответа на вопрос, что же заставило первого российского президента уйти в отставку за полгода до окончания президентского срока. Обычные объяснения — плохое здоровье, сложные политические расчеты, неизбежный вскоре экономический провал — все это малоубедительно. Ведь здоровье Ельцина осенью 1999 года заметно улучшилось, экономика не дает никаких сигналов о скором изменении ситуации, а что до политических расчетов, то они до сих пор не проявили себя никак. То есть, Ельцин вполне мог досидеть президентский срок полностью и передать все бразды Путину в июне, с триумфом и овациями. Что же произошло?**

Ситуацию проясняет оказавшаяся в нашем распоряжении информация о том, что 7 августа Борис Ельцин неожиданно умер.

К этому готовились, в первую очередь в семье, не только переводя крупные средства за границу и обзаводясь недвижимостью, но и подготавливая плавную передачу власти доверенному лицу. Одной из спецопераций, которые в большинстве своем проводились УФСБ по Санкт-Петербургу и Ленинградской области, была подготовка двойников, один из которых должен был заменить Ельцина в случае его смерти на несколько дней, чтобы подготовить общественное мнение, а затем бесследно исчезнуть. Двойников готовили на одном из объектов, принадлежащих Военно-медицинской академии. Их не только «доводили» до полного соответствия облику президента методом косметических операций, в частности, удаляя фаланги пальцев, отсутствующие у настоящего Ельцина, но и подвергали гипно-суггестивному воздействию — двойники практически полностью идентифицировали себя с Ельциным, на семьдесят процентов ощущая себя им. Они не только не отзывались на свои старые имена, тщательно удаляемые из всех документов, домовых книг и регистрационных карт, но и оборачивались, если сзади произносили «Борис Николаевич»...

В ночь с 6 на 7 августа, находясь на даче в Горках-9, Ельцин почувствовал себя плохо. Дежуривший постоянно рядом врач-реаниматолог сказал, что прогноз самый неблагоприятный. Бывшая рядом Наина Иосифовна срочно вызвала Т.Дьяченко, В.Окулова, М.Акчурина, а также А.Чубайса, В.Путина и А.Волошина.

Приглашенные прибыли, когда президент уже находился без сознания. Акчурин констатировал клиническую смерть вследствие отрыва внутрисердечной мышцы и полную бесперспективность реанимационных мероприятий. Срочно, по приказу Волошина, была удалена внутренняя охрана и врачебная бригада... В обычной черной «Волге» с «мигалкой», лежа на заднем сиденье, был срочно доставлен дежурный двойник, уроженец Оренбургской области, 58 лет, фамилия и имя достоверно не установлены. Наина Иосифовна потребовала, чтобы Ельцина перед заменой отпели по православному обычаю. Через час на дачу прибыл патриарх Алексий и провел обряд прямо в Горках, на даче. Никого посторонних в этот момент на даче уже не было.

Труп рано утром был кремирован как неопознанный. Раннее время сильно помогло сохранить происшедшее в тайне. Оставшиеся Путин и Волошин помогли двойнику быстро освоиться с помещением, которое тому было досконально известно в результате многомесячных тренировок, и вернули в особняк охрану.

Осиротевшая команда Ельцина не могла доверить исполнение обязанностей президента Степашину, тем более что предстоявшие по Конституции в течение трех месяцев президентские выборы тот очевидно проигрывал. Поэтому была в том, что помимо лиц, непосредственно присутствовавших при последних минутах жизни Ельцина, ряд лиц также получили информацию о происшедшем. Одним из таких лиц был, конечно, Б.Березовский, немедленно начавший шантажировать Кремль. После победы в думских выборах его фракции «Единство» и подконтрольного ему же объединения «Народный депутат», Березовский потребовал себе кресло спикера, постоянное членство в Совете безопасности, перемещения Путина в Совет безопасности и передачу поста премьера Аксененко. Путину и Чубайсу ничего не оставалось делать, как провести отставку «президента» с передачей полномочий Путину и замещения ряда ключевых постов верными питерскими чекистами.



молниеносно подготовлен указ о смещении Степашина и назначении Путина, вызвавший недоумение в обществе.

В течение короткого времени из кремлевской администрации были под разными предлогами удалены лица, ранее имевшие тесный контакт с Ельциным и способные что-то заподозрить. Двойник выполнял функции президента, хотя из предосторожности его основным местом обитания оставалась дача, контакты с внешним миром были максимально ограничены. Наблюдатели, особенно зарубежные, стали замечать, тем не менее, улучшение во внешнем виде и самочувствии президента.

Опасность ситуации состояла в том...

**Эта информация была получена корреспондентом «Правды» А.Барановым на дискете от неизвестного лица. Дискета содержала фрагмент допроса невольного свидетеля этого «происшествия», достоверность которого никто подтвердить либо опровергнуть не может.** ■

АЎКЦЫЁН

# Як прадаць душу?

Невядомы амерыканец беспаспяхова спрабаваў прадаць сваю душу праз Інтэрнэт. На буйнейшым інтэрнэт-аўкцыёне *eBay* з'явілася ягоная прапанова. Стартавая цана была вызначаная па максімальнай стаўцы — 5 тысяч долараў.

Аднак доўга гандляваць душой яму не давялося — адміністрацыя аўкцыёна зняла з продажу ягоны «лот». На думку прадстаўнікоў кампаніі, чалавек, які хоча прадаць на іх аўкцыёне сваю душу, не можа прадставіць доказу наяўнасці ў яго гэтага «тавару», і такім чынам парушае адно з асноўных правілаў *eBay*.

Цікава, што раней праз гэты аўкцыён было бесперашкодна прададзена некалькі душ – аднак значна танней, за сумы ад 1 да 10 долараў.

Арганізацыя інтэрнэт-аўкцыёнаў, такіх як *eBay*, дазваляе любому падарожніку ў «сусветнай павуціне» выставіць на продаж любы тавар – абсалютна незалежна ад адміністрацыі аўкцыёна. На адным і тым жа аўкцыёне могуць адначасова прадавацца мільёны самых розных тавараў – ад дзіцячых цацак да сапраўдных самалётаў.

Кантроль за прапановамі ажыццяўляецца звычайна праз «зваротную сувязь» паміж наведвальнікамі аўкцыёна і яго ўладальнікамі: паведаміць чалавек, што прапанова №0000 незаконная, і толькі тады на яе звернуць увагу. Калі адміністрацыя палічыць, што гэты лот не адпавядае іхнім правілам, то ён можа быць зняты з продажу. Нядаўна з таргоў на *eBay* была знятая прапанова чалавека, які прадаваў сваю нырку. ■

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
(г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1752 Нумар падпісаны ў друк 06/03/2000 (15:00) Наклад – 20.000